# АПОШНІ МУЖЧЫНА



# 3

**11 ВЫПУСК**
**12 ВЫПУСК**
**13 ВЫПУСК**
**14 ВЫПУСК**
**15 ВЫПУСК**
**16 ВЫПУСК**
**17 ВЫПУСК**

**ПЕРАКЛАД АРТУРА БАРАДАЧОВА,**
**АФАРМЛЕННЕ КОЗЫРАВА СЯРГЕЯ**

ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ
ЗА ПАДТРЫМКУ
COMICSBY.BY:

Сяргей
Лісічонак






**Марканд, Місуры.**
**Зараз.**




НА ШТО ГЭТА «ШТОСЬЦІ» ПАДОБНА?
НА ПАЎПАЧКА.
З ЯКОГА ГЭТА ЧАСУ ТЫ ПАЛІШ, 355?
НАПЭЎНА З ТАГО ЧАСУ, ЯК ЗАРАЗА ЭПІЧНАГА МАШТАБУ ЗАБІЛА ЎСІХ МУЖЧЫН, НЕ ЎЛІЧВАЮЧЫ ТВАЁЙ ВАЛАСА-ТАЙ ДУПЫ.
СПРАВЯД-ЛІВА.
МАГУ Я ПАПРАСІЦЬ У ЦЯБЕ АДНУ?
ПРАБАЧ, РЫК, АЛЕ ПРЭЗІДЭНТ ДАЛА МНЕ ЗАГАД АБАРАНЯЦЬ ЦЯБЕ, А НЯ ПЭЦКАЦЬ ТВАЕ РУЖОВЫЯ ЛЁГКІЯ.
ГАСПАДАР-ПАН.
СПАДЗЯЮСЯ, ГРУПА КАЛ-ПЕР НАВУЧЫЛА ЦЯБЕ ЦЕРЦІ ПАЛАЧКІ АДНА АБ АДНУ.
ЛЁГКА Ж ЦЯБЕ ЎГАВА-РЫЦЬ...
ХОЦЬ СЛОВА СКАЖЫ ПРА ГЭТА СВАЁЙ МАЦІ, Я САМА ЦЯБЕ ЗАБ'Ю.


«ДА ЛІХАМАТАРЫ КАМУНІЗМ»?
ТЫ ШТО, КАЗАК НЕЙКІ?
А, ТЫ ПРА НАДПІС?
ГЭТА З АДНОЙ КНІЖКІ, ЯКУЮ Я ЧЫТАЎ У ШКОЛЕ... «ГРАФІЧНАЯ НАВЕЛА», ВЕДАЕШ? КНІГА-КОМІКС.
ХІБА Ў КОМІКСАХ ПІШУЦЬ «ДА ЛІХАМАТАРЫ»?
ЯК БАЧЫШ.
БОЖА, У «СУПЕРМЭНЕ» Я НІКОЛІ НЕ СУСТРАКАЛА ПАДОБНЫХ ВЫКАЗВАННЯЎ.
«СУПЕРМЭН» - ГЭТА ВЫДУМКА, 355.
У САПРАЎДНЫМ ЖЫЦЦІ...


Адзін маленькі крок
Глава першая
...Я САМЫ ДУЖЫ МУЖЧЫНА НА ЗЯМЛІ.
One Small Step
Chapter One
BRIAN K. VAUGHAN PIA GUERRA
Writer/Co-Creators/Penciller
JOSE MARZAN, JR., Inker
Clem Robins, Letterer Pamela Rambo, Colorist
Zylonol, Separator J.G. Jones, Cover Artist
Steve Bunche, Editor
Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA


Кха... Кхха... Бххааа... Кхэ...
ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY:
Сяргей Лісічонак
ТА-АК, ТЫ ТЫПОВЫ СТАЛЬНЫ МУЖЫК, НІЧОГА НЯ СКАЖАШ...
ЁН ШТО, ПАЛІЦЬ?
ЯКІМ ГАКАМ ЁН ЗБІРАЕЦЦА РАТАВАЦЬ ПЛАНЕТУ, КАЛІ ЯГО ЗЖАРУЦЬ РАК... І ІМПАТЭНЦЫЯ?


РАССЛАБЦЕСЯ, ГЭТА ТОЛЬКІ...
УВОГУЛЕ, СКАНЧАЙЦЕ. ЗДАЕЦЦА, У ІХ УСЁ Ж ТАКІ АТРЫМАЛАСЯ АДРАМАНТАВАЦЬ ГЭТЫ МАЛЕНЬКІ РУХАВІК.
І ЎБЯРЫ АД МЯНЕ ГЭТУ ЖЫВЁЛУ, ЯНА СПАРАЖНІЛАСЯ Ў МАЁЙ МЕДЫЦЫНСКАЙ ТОРБЕ.
ДАВАЙ, ІДЗІ, АМПЕРСЭНД... ПАКУЛЬ ПЕРАТВАРЭННЕ МІСІС ХАЙД ЯШЧЭ НЯ СКОНЧЫЛАСЯ.
БУДЗЬЦЕ З ІМ МЯКЧЭЙ, ДОКТАР МАН. ЁН ЯШЧЭ НЕ ДА КАНЦА АКРЫЯЎ АД ТАГО, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ Ў МЭРЫСВІЛЕ.
355, ПАМІЖ ВАМІ ШТОСЬЦІ ЁСЦЬ?
ПАМІЖ КІМ? МНОЙ І...?
ФУ, НЕ!
ГЭТА НЕ ЦЫГАРЭТА ПАСЛЯ СЭКСУ, КАЛІ ВЫ ГЭТА МАЕЦЕ НА ЎВАЗЕ.
НУ, ПРОСТА... ЯШЧЭ Ў АГАЯ ВЫ СКАЗАЛІ ШТОСЬЦІ, КАЛІ ВЫ БЫЛІ БЯЗ ПАМЯЦІ. СКАЗАЛІ, ШТО...
ЗАБУДЗЬЦЕСЯ.
НАПЭЎНА, ГЭТА БЫЛО ТОЛЬКІ ТРЫЗНЕННЕ ПАД УПЛЫВАМ НАРКОЗУ.
ПАВЕРЦЕ, ДОКТАР, МАЯ АДЗІНАЯ ЦІКАВАСЦЬ ДА ЁРЫКА СКЛАДАЕЦЦА Ў ТЫМ, КАБ АБАРАНІЦЬ ЯГО АД ПЕРАПЛЁТАЎ...


ГЭЙ, ТЫ!
Я?
ТАК... З ЧАГО ТЫ ЗРАБІЛА БАРАДУ?
А-А.
ВАДКІ КЛЕЙ І... КОНСКІ ВОЛАС.
ТАК І ДУМАЛА. ТАБЕ ТРЭБА ПАСПРАБАВАЦЬ СКАРЫСТОЎВАЦЬ УЛАСНЫЯ ВАЛАСЫ. ЗАСТАЕЦЦА НЕВЯЛІКАЯ ШЧЭЦЬ, КАЛІ ІХ ЗРАЗАЕШ. ВЫГЛЯДАЕ БОЛЬШ НАТУРАЛЬНА.
АГА.
МНЕ ПРА ГЭТА ЗАЎСЁДЫ КАЖУЦЬ.


ДЫК ШТО, У ЦЯБЕ ЁСЦЬ СЯБРОЎКА?
ЦІ ТЫ ПРАЦУЕШ ЯК Я?
ЁСЦЬ СЯБРОЎКА.
МЫ НАВАТ ЗАРУЧАНЫ. НАКШТАЛТ ЯК...
ДОБРА... А Я ЎЖО ПАДУМАЛА, ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ АДБІЦЬ У МЯНЕ ЎСІХ КЛІЕНТАЎ НА ЛІНІІ.
ПРАЎДУ КАЖУЧЫ, ТВАЁЙ ДЗЯЎЧЫНЕ ПАШАН-ЦАВАЛА МЕЦЬ КАГОСЬЦІ НАСТОЛЬКІ АДДАНАГА. ЗАЦЯГНІ ГРУДЗІ ЯШЧЭ ТРОХІ І БУДЗЕШ АМАЛЬ ХОЦЬ КУДЫ.
ДЗЯКУЙ.
УВОГУЛЕ, ПРЫ-ЕМНАЙ ДАРОГІ.
СЦЕРАЖЫСЯ АМАЗОНАК!
ПАСПРА-БУЮ.
ЭР АХ ХА
МЫ З ТАБОЙ, СЯБРУК... ДРЭЙ-ФУЕМ НА ПЛЫЦЕ Ў БЯЗМЕРНЫМ АКІЯНЕ ЭСТРА-ГЕНУ.


КАМЯНІ І ДРЭВЫ, КАМЯНІ І ДРЭВЫ...
Я ЗВАР'ЯЦЕЮ, КАЛІ ХУТКА НЯ ВЫБЕРУСЯ З ГЭТАГА ДЗЁЎБАНАГА ВАГОНА.
НЕ СПАКУШАЙСЯ, ЁРЫК. НАВАТ КАЛІ МЫ ПРЫЕДЗЕМ У САН-ФРАНЦЫСКА, У НАС НАЎРАД БУДЗЕ ЧАС НА ВЯЧОРКІ Ў «CRACKED CRAB» І КАТАННЕ НА ВОДНЫХ ЛЫЖАХ.
МНЕ З ТАБОЙ ТРЭБА ПРАВЕСЦІ СОТНІ ТЭСТАЎ... КАЛІ, ЗРАЗУМЕЛА, ПОЗНЕЭМБРЫЯНАЛЬНЫЯ КЛЕТКІ МАЁЙ ДАЧКІ ЎСЁ ЯШЧЭ ПРЫДАТНЫЯ ДЛЯ ПАРАЎНАННЯ.
ДАЧКІ? Я ЛІЧЫЛА, ШТО КЛОН, ЯКОГА ВЫ ВЫНОШВАЛІ БЫЎ МУЖЧЫНСКАГА ПОЛУ.
ШТО?
БЕЗУМОЎНА. ГЭТА ТОЕ, ШТО Я...
THUNK
ЯКОГА...?


ГУК, БЫЦЦАМ НЕШТА ЗВАЛІЛАСЯ НА ДАХ.
Я ПРАВЕРУ.
Я З ТАБОЙ.
НЕ!
КАЛІ ЁН ПОЙДЗЕ ЗА МНОЙ, ЗРАБІЦЕ ТОЕ, ПРА ШТО МЫ КАЗАЛІ.
ДАМОВІЛІСЯ.
ЯКОГА ЛЯСУНА?
ЛАЙНО, ЯКІЯ ВЫ АГІДНЫЯ.


КАЛІ ТАМ ХТОСЬЦІ ЁСЦЬ, Я ПАДЫМА-ЮСЯ!
І Я ЎЗБРОЕНАЯ!
НЕ! КАЛІ ЛАСКА!
Я ШМАТ ДЗЁН СТАРАЛАСЯ ТРАПІЦЬ НА ЦЯГНІК! Я СПРАБУЮ ТРАПІЦЬ ДА МУЖЧЫНЫ!


БАЮСЯ, У ВАС ГЭТА НЕ АТРЫМАЕЦЦА.
THINK
ВЫ НЕ РАЗУМЕЕЦЕ!
Я ПРАЕХАЛА ЎВЕСЬ ШЛЯХ ДА ШТАТАЎ З МАІМ...
НЯ ТРЭБА!
ЭНХ!
КІНЬЦЕ СТРЭЛЬБУ, ІНАКШ Я...
СМЯРДЗЮЧАЯ PIZDA!
Solomon's Starr



УУФФ!
ЛАЙНО!
БОЖА, НЯЎЖО ЗНОЎ...
...ПАЧА-ЛОСЯ?


ТРЫМАЙЦЕ МАЮ РУКУ, КАЛІ ЛАСКА!
Я РАТУЮ ВАС, А ВЫ ПУСКАЕЦЕ МЯНЕ ДА ВАС У ЦЯГНІК, ДАМОВІЛІСЯ?
ГЭТЫ МЕДАЛЬ... ЯК, ЧОРТ ДЗЯРЫ, ВЫ АТРЫМАЛІ ЗАЛАТУЮ ЗОРКУ?
У ШКОЛЕ Я БЫЛА ПАСЛУХМЯНАЙ ДЗЯЎЧЫНКАЙ.
АЛЕ ГЭТА Ж УЗНАГАРОДА ГЕРОЯЎ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРА...
БОЛЬШ НІЯКІХ УДАРАЎ І НІЯКІХ ПЫТАННЯЎ. МЫ СЯБРЫ І МЫ Ў РАЗЛІКУ, ДОБРА?
ЗЗБ!
ЭММ... У ВАС ТУТ УСЁ ДОБРА?


ЧОРТ ДЗЯРЫ, ЁРЫК.
ЯК...?
А Я ЯЕ ПАЗНАЮ.
ЯНА ТОЙ ЗАЯЦ, ЯКОГА ВЫШПУРНУЛІ З ЦЯГНІКА Ў МЭРЫСВІЛЕ.
ХТО... ХТО ТАКІ ГЭТЫ МУЖЧЫНА?
ДЫК ВЫ НЕ ЯГО ШУКАЛІ?
НЕ, Я ЕДУ Ў КАНЗАС, КАБ...
МНЕ ВЕЛЬМІ СКЛАДАНА ТЛУМАЧЫЦЬ НА ВАШАЙ МОВЕ.
<ДЫК ПАСПРАБУЙ-ЦЕ НА СВАЁЙ.>
<ВЫ РАЗМАЎЛЯЕЦЕ ПА-РУСКУ?>
<ЗУСІМ НЯДАЎНА.>
<МАЯ ГРАМАТЫ-КА ЗЛЁГКУ... ЭЭ, КУЛЬГАЕ.>


<ВЫДАТНА! Я АДЧУВАЮ СЯБЕ ПОЎНАЙ ДУРАЙ, КАЛІ СПРАБУЮ РАЗМАЎЛЯЦЬ ПА-АНГЛІЙСКУ.>
<НЕ СПЯШАЙЦЕСЯ. ХТО ВЫ ТАКАЯ?>
<МЯНЕ ЗАВУЦЬ НАТАЛЛЯ ЗАМЯЦІНА.>
<ШТО?>
<ПРАДСТАЎНІКІ ТАГО, ШТО ЗАСТАЛАСЯ АД УРАДА ПАСЛАЛІ МЯНЕ ЗА АДЗІНЫМ ЖЫВЫМ МУЖЧЫНАМ НАШАЙ КРАІНЫ, КАСМАНАЎТАМ НА БОРЦЕ МКС.>
ГЭЙ, ТАВАРЫШЫ, МЫ НЕ МАГЛІ Б ПЕРАКЛАСЦІ ГЭТА ЦІ...
<ДОЎГІЯ МЕСЯЦЫ ЁН БЫЎ У ПАСТЦЫ НА МКС З ДВЮМА ВАШЫМІ АСТРАНАЎТАМІ, МУЖЧЫНАМ І ЖАНЧЫНАЙ.>
<АДКУЛЬ ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО ЁН УСЁ ЯШЧЭ ЖЫВЫ?>
<НУ, МЫ СТРАЦІЛІ РАДЫЁСУВЯЗЬ НЕКАЛЬКІ ТЫДНЯЎ ТАМУ, АЛЕ НАШЫ ЛЮДЗІ РАЗМАЎЛЯЛІ З АБОДВУМА МУЖЧЫНАМІ ЯШЧЭ Ў ЛІПЕНІ, ТАМУ МЫ ВЕДАЕМ, ШТО ЯНЫ ПЕРАЖЫЛІ ЭПІДЭМІЮ.>
<ЯНЫ ЧАКАЛІ, ШТО НАСА ПАШЛЕ ШАТЛ, КАБ ВЫРАТАВАЦЬ ІХ... АЛЕ Х'ЮСТАН, ПА ЎСЁЙ БАЧНАСЦІ, ПРОСТА НЯ МЕЎ МАГЧЫМАСЦІ ЗРАБІЦЬ ГЭТА.>
<АЛЕ ЯК ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ДАБРАЦЦА ДА ІХ?>
<Я І НЕ ЗБІРАЮСЯ.>
<ЯНЫ САМІ СПУСЦЯЦЦА СЮДЫ.>


ТЫ Ж ЧУЎ ГЭТЫЯ ЖУДАСНЫЯ ГІСТОРЫІ? ШТО «САЮЗ» – ГЭТА СМЯРОТНАЯ ПАСТКА, І ШТО З ЯГО НЕЛЬГА ВЫРАТАВАЦЦА?
ВІДАВОЧНА, ШТО ЗА НАМІ НЕ ДАШЛЮЦЬ ТАКСІ, ЯКОЕ МЫ ЗАКАЗВАЛІ. А Я ЛЕПЕЙ ШЛЁПНУСЯ ДЗЕ-НЕБУДЗЬ У КОРНФІЛДЗЕ, ЧЫМ ЗАДЫХНУСЯ Ў ГЭТЫМ КАНСЕРВАВЫМ СЛОІКУ.
НАВАТ КАЛІ МЫ НЕ ПАРАЗБІВАЕМСЯ, АДКУЛЬ НАМ ВЕДАЦЬ, ШТО ТОЕ, ШТО ЗАБІЛА ЎСІХ МУЖЧЫН, НЕ ЗАБ'Е ВАС У НАСТУПНУЮ Ж СЕКУНДУ ПАСЛЯ ПРЫЗЯМЛЕННЯ?
МЫ НЯ ВЕДАЕМ, АЛЕ МЫ ЗРОБІМ УСЕ ЗАХАДЫ ЗАСЦЯРОГІ, СІБА.
МЫ АПРАНЕМ КАСЦЮМЫ ПЕРАД ПАСАДКОЙ, І КАНТАКТ УЛАДА БУДЗЕ ЧАКАЦЬ НАС НА МЕСЦЫ ПРЫЗЯМЛЕННЯ, КАБ СУПРАВАДЗІЦЬ НАС У СХОВІШЧА, ЯК ТОЛЬКІ МЫ ВЫКРЫЕМ ЛЮК.
ТАК І ЁСЦЬ, КАПІТАН...
...АЛЕ СПАЧАТКУ НАМ ТРЭБА ПЕРАЖЫЦЬ УВАХОДЖАННЕ.
SPEED LIMIT 1750


ВЛАД, ПРАБАЧ, Я ДУМАЛА, ШТО ТЫ Ў ГАЛАВЕ СТАНЦЫІ, ПРЫВОДЗІШ У ПАРАДАК ВУСЫ.
ТОЕ, ШТО ТЫ ЧУЎ… Я НЕ ЖАДАЛА БРАЦЬ ПАД СУМНЕННЕ ТВАЁ МАЙСТЭРСТВА ПІЛОТА.
ТАБЕ НЕ ПРА МАЕ ЗДОЛЬНАСЦІ ТРЭБА ТУРБАВАЦЦА.
З ПРЫЧЫНЫ ХІМІЧНАЙ ДЭГРАДАЦЫІ ГІДРАЗІНАВАГА ПАЛІВА, «САЮЗ» НЕ ПРЫЗНАЧАНЫ ДЛЯ КАНСЕРВАЦЫІ Ў КОСМАСЕ ДАЎЖЭЙ ЗА ШЭСЦЬ МЕСЯЦАЎ.
НАША ПАСУДЗІНА НЕ АБНАЎЛЯЛАСЯ ЎЖО БОЛЬШ ЗА ДЗЕВЯЦЬ.
ДОБРА. АЛЕ Ж ГЭТЫЯ ЛІЧБЫ ЗВЫЧАЙНА ПАДАЮЦЦА «З ЗАПАСАМ». ТАК ЖА?
РУСКІЯ ІНЖЫНЕРЫ НЯ ВЕЛЬМІ ВЯЛІКІЯ МАЙСТРЫ РАБІЦЬ РЭЧЫ «З ЗАПАСАМ», СЭР.
ДЫК ЯК ЖА НАМ ДАВЕДАЦЦА, ЦІ РАЗ'ЕЛА ПАЛІВА ЎНУТРАНУЮ ПРАВОДКУ «САЮЗА»?
ТОЛЬКІ АДЗІН СПОСАБ ЗРАЗУМЕЦЬ БЕСПАМЫЛКОВА…
…ПАГЛЯДЗЕЦЬ, ЦІ ЗГАРЫЦЬ НАША ШЛЮПКА ПРЫ ЎВАХОДЖАННІ Ў АТМАСФЕРУ.
СПРАВЫ Ў НАС УСЁ ЛЕПЕЙ І ЛЕПЕЙ…




**Марканд, Місуры.**
**Праз дзве гадзіны.**







ВЫ ВЕДАЛІ, ШТО ГЭТА ВЫКАЗВАННЕ ПРЫДУМАЎ ШЭКСПІР?
ШТО?
Я МАЮ НА ЎВАЗЕ «WILD-GOOSE CHASE».
ПЕРШАПАЧАТКОВА ЯНО АЗНАЧАЛА НЕПРАДКАЗАЛЬНЫ ШЛЯХ, ЯКІМ ІДЗЕ ПЕРШЫ ЧАЛАВЕК, А ДРУГІ КРОЧЫЦЬ ЗА ІМ… І, У РЭШЦЕ РЭШТ, НАГАНЯЕ ПЕРШАГА.
МАЙМУ МУЖУ ПАДАБАЛАСЯ НАГАДВАЦЬ, ШТО СУЧАСНЫ СЭНС ВЫКАЗВАННЯ – ГЭТА ТОЛЬКІ ПАМЫЛКОВАЯ ПЕСІМІСТЫЧНАЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ…
ХОПІЦЬ! МЫ ЎЖО МЕСЯЦАМІ НАДАКУЧАЕЦЕ МНЕ СВАІМ ПЕДАНТЫЧНЫМ ГЛУПСТВАМ. ВЫ НЕ ДАЯЦЕ НІЯКАЙ КАРЫСНАЙ ІНФАРМАЦЫІ. Я НАВАТ НЯ ВЕДАЮ ВАША ІМЯ!
БУДЗЬЦЕ ЦЯРПЛІВАЙ, АЛТЭР, Я СКАЗАЛА ВАМ УСЁ, ШТО ВАМ ТРЭБА ВЕДАЦЬ, КАБ ЗНАЙСЦІ АПОШНЯГА МУЖЧЫНУ НА ЗЯМЛІ, І ВЫ ЎЖО ДАСТАТКОВА БЛІЗКА.
Я НЯ ВЕДАЮ, НАКОЛЬКІ БЯСПЕЧНАЯ ГЭТА ЧАСТАТА, ТАМУ Я НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ ВАМ БОЛЬШ, ЧЫМ…
ГЭТА АПРАЎДАННЕ БОЛЬШ НЕ ПРЫМАЛЬНАЕ. ДАЙЦЕ МНЕ ПРЫЧЫНУ ПРАЦЯГВАЦЬ ВАМ ВЕРЫЦЬ, ЦІ МАЕ ВОЙСКІ ВЯРТАЮЦЦА НАЗАД У ТЭЛЬ-АВІЎ.
АПОШНІ РАЗ ЗАПЫТВАЮ, **ХТО** ВЫ ТАКАЯ?
БОЖА, АЛТЭР, ХІБА ГЭТА НЕ ВІДАВОЧНА?


Я АДЗІНАЯ МАЦІ, У ЯКОЙ УСЁ ЯШЧЭ ЁСЦЬ СЫН.
GONE FISHIN'!
Працяг будзе...


АПОШНІ МУЖЧЫНА НА ЗЯМЛІ – ВАШ СЫН?
КАЛІ Я НЯ ВЫДУМАЛА ТЫЯ 26 ГАДЗІН, КАЛІ ПРАЦЯГВАЛІСЯ РОДЫ.
Я ЧЛЕН КАНГРЭСА, ДЖЭНІФЕР БРАЎН, Я...
ЧЛЕН КАНГРЭСА? ВЫ АМЕРЫКАНСКАЯ КАНГРЭСВУМЭН? ТАДЫ ЯКОГА ЛЯСУНА ВЫ ПРАСІЛІ ІЗРАІЛЬ ДАПАМАГЧЫ? ВАША ЎЛАСНАЯ АРМІЯ...
...І ДА ГЭТАГА ЧАСУ Ў БЕСПАРАДКУ, АЛТЭР, ЯК ВЫ І МАГЛІ БАЧЫЦЬ. Я ВЕДАЛА, ВЫ АДЗІНАЯ ЖАНЧЫНА, ЯКАЯ МОЖА ВЯРНУЦЬ МАЙГО СЫНА.
ВАШ ПАПЯРЭДНІК БЫЎ... ЁН БЫЎ МАІМ ДОБРЫМ СЯБРАМ. ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТ ЯХУДА ЗАЎСЁДЫ ДОБРА ПРА ВАС АДКЛІКАЎСЯ.
АКРАМЯ ТАГО, ЗНІКЛІ АМЕРЫКАНЦЫ, ЯКІМ Я Б МАГЛА ДАВЯРАЦЬ.


ЗРАЗУМЕЛА.
УПЭЎНІВАЮ ВАС, СІСТЭМА СУВЯЗІ, СТВОРАНАЯ МАІМІ ЛЮДЗЬМІ, ВЕЛЬМІ ТРЫВАЛАЯ. НАША ЧАСТАТА...
ТАК, ТАК, ЦУДОЎНА. ГЭТА АДБЫЛОСЯ ХУТКА ПАСЛЯ ТАГО, ЯК МОЙ СЫН ПАКІНУЎ ВАШЫНГТОН...
Я ВЫВУЧЫЛА АРГАНІЗАЦЫЮ, ЯКАЯ ПРЫСЯГНУЛА **АБАРАНЯЦЬ** ЁРЫКА, ЯНА СКЛАДАЕЦЦА З ЭГАЦЭНТРЫЧНЫХ СЛУЖКАЎ ВЫКАНАЎЧАЙ УЛАДЫ, АДНАК НАШ ПЕРШЫ ПРЭЗІДЭНТ ПРЫМУСІЎ МЯНЕ ДАВЕРЫЦЦА ІМ.
НА САМОЙ СПРАВЕ "ГРУПА КАЛПЕР" – ГЭТА БАНДА КАТАЎ І... І **ЗАБОЙЦАЎ**, ВЯДОМЫЯ СВАІМІ БРУДНЫМІ ВЫБРЫКАМІ. НА ПРАЦЯГУ ШМАТ ДЗЕСЯЦЦІГОДДЗЯЎ ЯНЫ ЧЫНЯЦЬ ЗЛАЧЫНСТВЫ ДЛЯ КАРУМПАВАНЫХ УРАДАЎ.
І ЦЯПЕР ВЫ ПАДАЗРАЯЦЕ, ШТО ГЭТА ГРУППА МАЕ ДАЧЫНЕННЕ **ДА ВЫКРАДАННЯ** ВАШАГА СЫНА?
ТАК, АДНАГО З ІХ АГЕНТАЎ... "355". НІЧОГА НЯ ВЕДАЮ ПРА ЯЕ ПЛАНЫ, АЛЕ ДАКЛАДНА ВЕДАЮ, ШТО ЯНА НЯДАЎНА ПЕРАВЕЗЛА ЁРЫКА Ў ВАША ЦЯПЕРАШНЕЕ МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ.
СПАЧАТКУ ВЫ КАЗАЛІ, ШТО ЯНЫ ШУКАЮЦЬ НЕЙКАГА ГЕНЕТЫКА Ў БОСТАНЕ. ЧАМУ ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО ВАШ СЫН І ЯГО ЗАХОПНІК ЦЯПЕР ТУТ, У **МІСУРЫ**?
НА ГЭТА ЁСЦЬ СВАЕ ПРЫЧЫНЫ, АЛТЭР. ВЕДАЕШ, У МЯНЕ ЁСЦЬ ЗНАЁМАЯ Ў САКРЭТНАЙ СЛУЖБЕ, І ЯНА ДАПАМАГЛА МНЕ ЎЖЫВІЦЬ ЁРЫКУ **САЧЫЛЬНУЮ ПРЫЛАДУ**, ПЕРАД ТЫМ, ЯК ЁН ПАЕХАЎ.
СПАДАРОЖНІК МЕТАДАМ ТРЫЯНГУЛЯЦЫІ ДАКЛАДНА ВЫЗНАЧАЕ МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ АБ'ЕКТА, АЛЕ ЧАСАМ НА ГЭТА ТРЭБА ПАТРАПІЦЬ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН.
ТАК ЦІ ІНАКШ, ЯК ВЫ МОЖАЦЕ БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ, ШТО ГЭТЫ МАЯК ЯШЧЭ НЕ ЗНАЙШЛІ І НЯ ВЫДАЛІЛІ?
ТАМУ ШТО МЫ СХАВАЛІ ЯГО ЎНУТРЫ МАЛПЫ ЁРЫКА.
**УНУТРЫ** КАГО?



Адзін маленькі крок
Глава другая
Пераклад – Артур Барадачоў
Афармленне – Сяргей Козыраў
ГРР АКАК
One Small Step
Chapter Two
BRIAN K. VAUGHAN PIA GUERRA
Writer/Co-Creators/Penciller
JOSE MARZAN, JR., Inker
Clem Robins, Letterer Pamela Rambo, Colorist
Zylonol, Separator J.G. Jones, Cover Artist
Steve Bunche, Editor
Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA




Канзас.
Праз дзесяць гадзін.




КАЛІ ТОЕ, ШТО КАЖА НАТАЛЛЯ, ПРАЎДА, РАТАВАЛЬНАЕ СУДНА "САЮЗ" ХУТКА ПРЫЗЯМЛІЦЦА, З АДНОЙ ЖАНЧЫНАЙ І ДВУМА МУЖЧЫНАМІ НА БОРЦЕ. ДВУМА **ЖЫВЫМІ** МУЖЧЫНАМІ.
І ГЭТЫМ АСТРАНАЎТАМ БУДЗЕ ПАТРЭБНА ВАША АБАРОНА І ВАШ МЕДЫЦЫНСКІ ДОГЛЯД.
І МОЙ АБЯЗЗБРОЙНЫ ДОСЦІП!
СУР'ЁЗНА, ДОК, ДАЗВОЛЬЦЕ ХОЦЬ РАЗОЧАК СВАЙМУ НЯЧУЛАМУ МОЗГУ КІБАРГА ВЫПРАЦАВАЦЬ ТРОХІ СЕРАТАНІНУ. ГЭТА Ж ВЫДАТНА!
НЕ, ГЭТА ЎСЁ ПАДМАН.
КОЖНЫ, ХТО ХОЦЬ РАЗ ГЛЯДЗЕЎ "DISCOVERY", ВЕДАЕ, ШТО "САЮЗ" ЗАЎСЁДЫ ПРЫЗЯМЛЯЕЦЦА Ў **КАЗАХСКІХ СТЭПАХ**, ЗА МЯЖОЙ РАСІІ...
...АЛЕ НІЯК НЯ Ў ЧОРТАВЫХ ПАЛЯХ АЛФАЛЬВЫ Ў КАНЗАСЕ.
НЕ! У КАЗАХСТАНЕ ПРЫЗЯМЛЯЦЦА НЕЛЬГА!
АКТАЎ ПРАЦЯГВАЕ ВЫРАБЛЯЦЬ АТРУТУ І ЗАБІВАЦЬ!
ПАЧАКАЙЦЕ, АДМАТАЙЦЕ НАЗАД. ШТО ЗА АКТАЎ?
ГЭТА АТАМНАЯ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ.



НЕ, ТОЛЬКІ НЕ ЧАРГОВЫ **ЧАРНОБЫЛЬ**.
ГОРШ. МОЙ УРАД КАЖА ПРА **АДЗІН МІЛЬЁН** ЗАГІНУЛЫХ ЖАНЧЫН. АХВЯР БУДЗЕ ЯШЧЭ БОЛЬШ, КАЛІ БЕДСТВА ДОЙДЗЕ ДА РАСІІ.
БЕЗУМОЎНА, КАЛІ Я НЕ ДАСТАЎЛЮ НАШАГА КАСМАНАЎТА ЦЭЛЫМ І ЗДАРОВЫМ, У МАЁЙ КРАІНЫ БУДУЦЬ ПРАБЛЕМЫ ПАГОРАЙ, ЧЫМ **ХВАРОБЫ** Ў БУДУЧЫНІ.
<НАТАЛЛЯ, Я ЛІЧЫЛА, ШТО КАЗАХСТАН ВЫРАШЫЎ СВАЕ ПРАБЛЕМЫ З РЭАКТАРАМ, ХМ, РУСКІЯ КАЗАЛІ, ШТО ЁН...>
<У "АЎТАНОМНЫМ РЭЖЫМЕ"? МЫ ТАКСАМА. ВІДАВОЧНА, ШТО ЯШЧЭ ДА ЧУМЫ МУЖЧЫНЫ-КІРАЎНІКІ ТРЫМАЛІ ЎСЁ ГЭТА Ў ТАЙНЕ ДЛЯ СВАЁЙ КАРЫСЦІ.>
<У ТОЙ ЧАС, ЯК РАСІЯ НАДРЫВАЛА ДУПУ, ЗАКРЫВАЮЧЫ ЎСЕ НАШЫ ЗАВОДЫ, ЯДРО Ў КАЗАХСТАНЕ **РАСПЛАЎЛЯЛАСЯ**. АПОШНІ "АДЧАПІЦЕСЯ" АД КАРУМПАВАНЫХ БЮРАКРАТАЎ.>
БОЖА, ЯКІ КАШМАР. УСЕ ТЫЯ ЛЮДЗІ ПЕРАЖЫЛІ ЧУМУ... ТОЛЬКІ ДЛЯ ТАГО, КАБ ПОТЫМ ЗАГІНУЦЬ ПАДЧАС НЕЙКАГА ТУПОГА НЯШЧАСНАГА ВЫПАДКУ?
ТАК, ГЭТА ЖУДАСНАЯ ТРАГЕДЫЯ, ЁРЫК. АЛЕ, ПРЫНАМСІ, У АПОШНІ МОМАНТ ЖАНЧЫНЫ БЫЛІ ЎСЕ РАЗАМ.
У МАЁЙ КРАІНЕ КАЖУЦЬ: "НАВАТ СМЕРЦЬ ЦУДОЎНА, КАЛІ ТЫ НЕ САМОТНЫ".
ЯК СКАЖАШ.
355, КАЛІ ГЭТА ЗДАРЫЦЦА З АДНЫМ З НАШЫХ РЭАКТАРАЎ...
НЯ ЗДАРЫЦЦА. НА ПРАЦЯГУ МЕСЯЦАЎ МАЕ КАЛЕГІ ВЫВОДЗІЛІ З ЭКСПЛУАТАЦЫІ ЗАВОДЫ ПА ЎСЁЙ КРАІНЕ.
ПАВЕР МНЕ, "ГРУПА КАЛПЕР" ПРА ЎСЁ ПАКЛАПОЦІЦЦА.




Міжнародная Касмічная Станцыя.
Зараз.




ВООХ!
ТЫ ЖАДАЕШ, КАБ, КАЛІ МЫ ПРЫЗЯМЛІМСЯ, ВІРУС ЗАБІЎ МЯНЕ, І ТЫ ЗАСТАЎСЯ АДЗІНЫМ МУЖЧЫНАМ НА ЗЯМЛІ! ТЫ...
DECK
УФФ!
КАЛІ Б Я ЖАДАЎ ЗАБІЦЬ ЦЯБЕ, Я Б ЗРАБІЎ ГЭТА ТУТ! ЛЯСНУТЫ ТЫ...
ГЭЙ!


У МАЁЙ РУЦЭ ДАСТАТКОВА ДЫЯЗЭПАМУ, КАБ УВЕСЦІ Ў КОМУ ТЫРАНАЗАЎРА.
А Ў ГЭТАЙ РУЦЭ – ІНСТРУКЦЫЯ ПА ПІЛАТАВАННІ "САЮЗА".
ЗАРАЗ Я НЯ ЎПЭЎНЕНА, ШТО ЗМАГУ ВЯРНУЦЦА НА ЗЯМЛЮ АДНА...
...АЛЕ ВЕДАЙЦЕ, Я МАГУ **РЫЗЫКНУЦЬ**.


КАПІТАН... ПРАБАЧЦЕ МЯНЕ.
Я НЯ ВЕДАЮ, ЧАМУ Я ТАК ЗРАБІЎ.
ТАК, ТЫ ТАКСАМА МЯНЕ ПРАБАЧ, УЛАД.
МАБЫЦЬ, ГЭТА З ПРЫЧЫНЫ НЕДАХОПУ КІСЛАРОДУ, КІБА.
ЁН ВЫКЛІКАЕ ПСІХІЧНАЕ РАССТРОЙСТВА.
ЗНАЧЫЦЬ ТАК, ДЖЭНТЛЬМЭНЫ: ДАВАЙЦЕ ПАСПРАБУЕМ ТРЫМАЦЦА РАЗАМ. Я ВЕДАЮ, ТАКОЕ ПАЧУЦЦЁ, БЫЦЦАМ МЫ ЗАХРАСНУЛІ Ў ГЭТАЙ ШТУКОВІНЕ НАЗАЎСЁДЫ...
3.298 АБАРОТАЎ ВАКОЛ ГЭТАГА ЧОРТАВАГА БЛАКІТНАГА ШАРЫКА.
І ЎДВАЯ БОЛЬШ СРАТЫХ ПАРТЫЙ У ПОКЕР.
...АЛЕ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН ГЭТА ЎСЁ СКОНЧЫЦЦА.
ТАК ЦІ ІНАКШ.


ДОБРА, НАВАТ КАЛІ ГЭТЫЯ ТЭАРЭТЫЧНЫЯ КАСМАНАЎТЫ НА САМОЙ СПРАВЕ ЗМАГЛІ ВЫРАТАВАЦЦА АД ЧУМЫ, АДКУЛЬ НАМ ВЕДАЦЬ, ШТО ЯНЫ НЕ ЗАРАЗЯЦЦА, ПРЫЗЯМЛІЎШЫСЯ НА ЗЯМЛЮ.
МЫ ГЭТАГА І НЯ ВЕДАЕМ, ТАМУ МАЕ КІРАЎНІКІ І ЗАГАДАЛІ "САЮЗУ" ЗДЗЯЙСНІЦЬ ПАСАДКУ Ў ВАШАЙ КРАІНЕ. ЯК ЖА ВЫ ГЭТА НАЗЫВАЕЦЕ...
"ЦЁПЛЫ ПАКОЙ"?
НАШЫ ГАРАЧЫЯ КОМЛЕКСЫ? АДКУЛЬ РУСКІЯ ПРА ІХ ВЕДАЮЦЬ?
КДБ ПАМЁРЛА, СЯБРА, АЛЕ НЕ РАЗВЕДВАЛЬНАЯ СЛУЖБА.
ЭМ, Я РАЗУМЕЮ, ШТО Я НЕ БАКАЛАЎР МАСТАЦТВАЎ... АЛЕ ШТО ГЭТА ЗА ГАРАЧЫЯ КОМПЛЕКСЫ?
ГЭТА ГРУПА З ЧАТЫРОХ БІЯЛАГІЧНА БЯСПЕЧНЫХ ПАКОЯЎ, ЯКАЯ МЕРКАВАНА ІЗАЛЮЕ ІНФЕКЦЫЯВАНЫХ АГЕНТАЎ АД НАВАКОЛЬНАГА СВЕТУ І БЛА-БЛА-БЛА.
Я ВЕДАЮ, ШТО АДЗІН З ІХ ЗНАХОДЗІЦЦА У ФОРТ ДЭТРЫК, АЛЕ МЫ ЗАРАЗ ЗНАХОДЗІМСЯ Ў САМЫМ ЦЭНТРЫ **НІЧОГА**.
УРАД ХАВАЎ ТАМ ВЕЛІЗАРНЫЯ БУДЫНКІ ДЛЯ ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНЫХ АСОБ, КАБ ТЫЯ ЗМАГЛІ АДСТУПІЦЬ ПАДЧАС БІЯЛАГІЧНЫХ АТАК НА ГАЛОЎНЫЯ ГАРАДЫ.
**СХАВАЛІ**? А МАБЫЦЬ НЕЙКІЯ ХЛОПЦЫ ПЕРАЖЫЛІ ТАМ ЧУМУ?
НЯ ВЕДАЮ... АЛЕ МЫ ЗБІРАЕМСЯ ГЭТА ВЫСВЕТЛІЦЬ.
VRRMM


<ПІЛОТ, НЕ ЗА-БУДЗЬЦЕСЯ ПРА ДАЗАПРАЎКУ.>
<МЫ НЕДАЛЁКА АД НОВЫХ КААРДЫНАТАЎ, ЯКІЯ НАМ ДАЛІ АМЕРЫ-КАНЦЫ. >
<ОГО, МІСУРЫ СЁННЯ І КАНЗАС УЧОРА? ДАВАЙЦЕ ПАМОЛІМСЯ, КАБ У НА-СТУПНЫ РАЗ МЫ ЗЛАВІЛІ АПОШНЯГА ХЛОПЦА НА ЗЯМЛІ.>
<САДЗІ, НА ХВІЛІНКУ, КАЛІ ЛАСКА.>
<КАЛІ ЯШЧЭ ХОЦЬ РАЗ ТЫ БУДЗЕШ РАЗМАЎЛЯЦЬ СА МНОЙ ПАДОБНЫМ ТОНАМ ПРЫ МАІХ САЛДАТАХ...>
<...Я БУДУ ВЫМУ-ШАНА ПАПРАСІЦЬ ЦЯБЕ ВЫЙСЦІ.>


<ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, ГЕНЕРАЛ-ЛЕЙТЭНАНТ, АЛЕ Я ПАЧЫНАЮ ПАДАЗРАВАЦЬ, ШТО ВЫ ЎЦЯГНУЛІ НАС У ГЭТА БРУДНАЕ ПАЛЯВАННЕ ПРОСТА ТАМУ, ШТО ВАМ СТАЛА НУДНА Ў МІРНЫМ ІЗРАІЛІ.>
<ТЫ ПАМЫЛЯЕШСЯ.>
<Я РАБЛЮ ТОЕ, ШТО ЛЕПЕЙ ДЛЯ НАШАГА НАРОДА.>
<ПРАЦУЕЦЕ ДЗЯЎЧЫНКАЙ НА ПАБЯГУШКАХ У НЕЙКІХ АМЕРЫКАНСКІХ ПАЛІТЫКАЎ?>
<НЕ, Я САЧУ ЗА ТЫМ, КАБ АДЗІНАЯ ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЯ ФАБРЫКА СПЕРМЫ НЯ ТРАПІЛА Ў РУКІ ВОРАГА.>
<ВЫ ПРАЦЯГВАЕЦЕ ВЫКАРЫСОЎВАЦЬ ГЭТЫ ТЭРМІН "ВОРАГ".>
<АЛЕ МЕНАВІТА ВЫ ВУЧЫЛІ МЯНЕ, ШТО ЭЎФЕМІЗМЫ ТОЛЬКІ ДЛЯ ТЫХ, ХТО АДЧУВАЕ ВІНУ ПЕРАД ТЫМ, ПРА КАГО РАСКАЗВАЕ. КАЛІ ВАША СУМЛЕННЕ ЧЫСТАЕ, КАЖЫЦЕ ТОЕ, ШТО ДУМАЕЦЕ...>
<АРАБЫ.>


<ГЭТА ЗУСІМ ІНШАЕ. **ТЭРАРЫЗМ** – ВОСЬ ШТО МЯНЕ ХВАЛЮЕ. ХАМАС, ІСЛАМСКІ ДЖЫХАД...>
<АЛТЭР, ГЭТЫМ ГРУПОЎКАМ НЕ ПАТРЭБНЫ МУЖЧЫНЫ, КАБ ПАДАРВАЦЬ АЎТОБУСЫ! **ТЭРАРЫСТКА-СМЯРОТНІЦА** ЗАБІЛА МАЙГО ЗЯЦЯ!>
<У ТАКІМ ВЫПАДКУ ТЫ РАЗУМЕЕШ ПАТРЭБУ Ў ПІЛЬНАСЦІ.>
<НЕ, НЕ РАЗУМЕЮ! НЕ БЫЛО НІВОДНАЙ БАМБЁЖКІ З ТАГО ЧАСУ, ЯК УСЕ МУЖЧЫНЫ ПАМЕРЛІ!>
<І Я ЖАДАЮ, КАБ ТАК БЫЛО ЗАЎСЁДЫ.>
<ЯКІМ ЧЫНАМ? ВЯРНУЎШЫ ХЛОПЦА ЯГО **МАЦІ**?>
<НЯ БУДЗЬ ІДЫЁТКАЙ, САДЗІ. У МАЕ ПЛАНЫ НЕ ЎВАХОДЗІЦЬ ВЯРТАННЕ ЁРЫКА ЯГО ДАВЕРЛІВАЙ ПРАСЦЯЧЦЫ.>
<МЯРКУЮЧЫ ПА ТЫМ, ЯК ЯНА КЛАПОЦІЦЦА ПРА СВАЙГО СЫНА, АДДАЦЬ ЯГО РАЎНАВАЖНА ТАМУ, ШТО Я АДДАМ ЯГО АДРАЗУ ХЕЗБАЛЕ.>
<ТАДЫ... ШТО ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ РАБІЦЬ З ГЭТЫМ ХЛОПЦАМ?>
<ВЫСАДЗІЦЕ НАС ТУТ, ПІЛОТ.>
<ЗАСТАЎШУЮСЯ ЧАСТКУ ШЛЯХУ МЫ ПРОЙДЗЕМ ПЕШКІ.>
<НАМ ПАТРЭБНЫ ЭЛЕМЕНТ РАПТОЎНАСЦІ.>



НУ ДЫК ШТО?
ТЫ, ЭЭЭ, ДЗІЦЯ ПАЛІТЫКА?
ТАК, МАЯ МАЦІ Ў ВАШЫНГТОНЕ, КАЛІ ТЫ ГЭТА МАЕШ НА ЎВАЗЕ.
ГЭТА ТАМУ ТЫ ЯШЧЭ ЖЫВЫ? ЯНА ДАЕ ТАБЕ НЕЙКІ ПЭЎНЫ АНТЫДОТ?
**АНТЫДОТ?** НЕ, АДКУЛЬ БЫ Ў ЯЕ БЫЎ...
ПАЧАКАЙ, ТЫ Ж НЕ ЛІЧЫШ, ШТО ГЭТА АМЕРЫКАНСКІ **ЎРАД** ВЫКЛІКАЎ ЧУМУ, ТАК ЖА?
МАЕ СЁСТРЫ З АРМІІ, МАГЧЫМА, ЛІЧАЦЬ МЕНАВІТА ТАК. А Я НАВАТ НЯ ВЕДАЮ, **ШТО** ДУМАЦЬ, ЁРЫК.
ЦУДОЎНА, МЫ СТРАЦІЛІ ЎСІХ МУЖЧЫН, АЛЕ ПРЫНАМСІ ВЯРНУЛІ ПРАКЛЯТУЮ ХАЛОДНУЮ ВАЙНУ.
ЯК БЫ ТАМ НІ БЫЛО, Я ЎСЁ ЯШЧЭ РАДЫ, ШТО МЫ СУСТРЭЛІ ЦЯБЕ, НАТАЛЛЯ.
ТЫ ПРЫНЕСЛА ПЕРШЫЯ ПАТЭНЦЫЯЛЬНА ДОБРЫЯ НАВІНЫ З ТАГО ЧАСУ, ЯК МАЁ ЖЫЦЦЁ ПЕРАТВАРЫЛАСЯ Ў **ДРЭННА ПАСТАЎЛЕНЫ** СЕРЫЯЛ.
АЛЕ ЎСЁ РОЎНА ДЗЕСЬЦІ Ў ГЛЫБІНІ ДУШЫ ТЫ ЗАСМУЧАНЫ ТЫМ, ШТО ЎЖО НЯ БУДЗЕШ ТАКІМ... ТАКІМ **АСАБЛІВЫМ**, ЯК ЗАРАЗ, ТАК?


НЕ, ТРАСЦА ТАБЕ Ў БОК, НЕ.
ГЭТЫЯ ХЛОПЦЫ СТАЛІ МАРКІТАВАНЫМІ ГЕРОЯМІ ЯШЧЭ ДА ТАГО, ЯК ПАЧАЛАСЯ ЧУМА. ЯНЫ НАШМАТ ЛЕПЕЙ КВАЛІФІКАВАНЫ, КАБ ВЫРАТАВАЦЬ ЧАЛАВЕЦТВА, ЧЫМ НЕЙКАЕ САЦЫЯЛЬНА АДСТАЛАЕ БЕЛАЕ ДЗІЦЯ.
НЕ ЗРАЗУМЕЙ МЯНЕ НЯПРАВІЛЬНА, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НІ НА ШТО, Я ЎСЁ ЯШЧЭ МАГУ ДАПАМАГЧЫ, АЛЕ МАІМ ДЭВІЗАМ ЗАЎСЁДЫ БЫЛО “З НЕВЯЛІКАЙ СІЛАЙ ПРЫХОДЗІЦЬ НЕВЯЛІКАЯ АДКАЗНАСЦЬ”.
І ЗАЎВАЖ, ГЭТА НЯ ЗНАЧЫЦЬ БЫЦЬ ЛОДАРАМ. ГЭТА ЎСВЕДАМЛЕННЕ СВАЁЙ АБМЕЖАВАНАСЦІ. Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, ШТО МАГУ ПАДЦЯГНУЦЦА ТОЛЬКІ ДА ЎЗРОЎНЯ ПАДБАРОДКА.
АДЗІНЫЯ СКЛАДАНАСЦІ, З ЯКІМІ Я КАЛІ-НЕБУДЗЬ СУСТРАКАЎСЯ, УКЛЮЧАЮЦЬ У СЯБЕ КІТАЙСКІЯ ПАЛЬЦАВЫЯ ПАСТКІ І... І ФОКУС З МАЛОЧНЫМ БІТОНАМ. БОЛЬШУЮ Ж ЧАСТКУ ЧАСУ Я ПРОСТА ЎСЁ ПСУЮ.
КОЖНЫ ЛІЧЫЦЬ, ШТО ВЕДАЕ, ЯК “АДРАМАНТАВАЦЬ” СВЕТ, АЛЕ ЧАСАМ УСІМ НАМ БЫЛО Б ЛЕПЕЙ, КАЛІ Б НЕКАТОРЫЯ З НАС ЗАСТАЛІСЯ ЎБАКУ... ЯК ЛІЧЫШ?
ПРАБАЧ, ЁРЫК, МАІХ ВЕДАЎ АНГЛІЙСКАЙ МОВЫ НЕДАСТАТКОВА ДЛЯ БАЛБАТНІ НАКШТАЛТ ГЭТАЙ. Я НЕ РАЗУМЕЮ, ПРА ШТО ТЫ ТОЛЬКІ ШТО КАЗАЎ.
АЛЕ Я ВЕЛЬМІ РАДА ЗНОЎ ПАЧУЦЬ МУЖЧЫНСКІ ГОЛАС.


ЭМ, А НАВОШТА ТЫ РАСШПІЛЯ-ЕШСЯ...?
ВАША КРАІНА ВЕЛЬМІ ПРЫГОЖАЯ, АЛЕ ВЕЛЬМІ СПЯ-КОТНАЯ.
ЗАЎСЁДЫ, ТАКАЯ СПЯ-КОТА...
НАТАЛЛЯ, НЕ ЖАДАЮ ПАКАЗАЦ-ЦА ГРУБЫМ, АЛЕ НЕ МАГЛА Б ТЫ, ЭМ... ЗАСТАВАЦЦА АПРА-НУТАЙ ПОБАЧ СА МНОЙ?
<БОЖА, Я НІКОЛІ НЯ ДУМАЛА, ШТО СТАНУ "МІС МАСКВА".>
<ЧЫРВОНАЯ ПЛОШЧА ЎСЫПАНА МУЖЧЫНСКІМІ ЦЕЛАМІ... ЯНЫ БЫЛІ ПАДОБНЫ НА ДЗЯЦЕЙ, ЯКІЯ РОБЯЦЬ АНЁЛАЎ НА СНЕЗЕ.>
<І Я ПАМЯТАЮ, ЯК ШУКАЛА ЦЯБЕ, ШАНОЎНЫ РОДЗЯ. ВЫРАЗ ТВАЙГО ТВАРУ НАЗАЎСЁДЫ АДБЫЎСЯ Ў МАЁЙ ПАМЯЦІ...>
І ХОПІЦЬ МАРМЫТАЦЬ ПА-РУСКУ. ТВОЙ АКЦЭНТ ХВАЛЯВАЛЬНА СЭКСУАЛЬНЫ.
ПРОСТА Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ДЗЯЎЧЫНА, І Я СПРАБУЮ БЫЦЬ ЁЙ АДДАНЫМ, АЛЕ, ЯК КАЖУЦЬ, ПЛОЦЬ СЛАБАЯ, І Я ЎСЯГО ТОЛЬКІ...
УНФ!
FWAP


ПРАБАЧ ЗА ГЭТА.
Я ЛІЧУ, МЫ НА МЕСЦЫ.


ТЫ ЎПЭЎНЕНА Ў ГЭТЫМ, СТАРЫ МАК?*
ГЭТА САКРЭТНАЕ ЗБУДАВАННЕ, ЁРЫК.
ЯНО І НЕ ПАВІННА БЫЦЬ ПАДОБНЫМ НА ПЕНТАГОН.
*ТУТ АДСЫЛКА ДА ДЗІЦЯЧАЙ НАРОДНАЙ ПЕСНІ "OLD MACDONALD HAD A FARM".
ТАК, АЛЕ ГЭТА ХЛЕЎ.
У ПАДОБНЫХ МЕСЦАХ ЗВЫЧАЙНА ХАВАЮЦЦА БАНДЫТЫ, ПЕРШ ЧЫМ НЯЎХІЛЬНА БЫЦЬ ЗАСТРЭЛЕНЫМІ.
ДЖОН УІКЛС БУТ БЫЎ ЗАБІТЫ Ў ХЛЕВЕ.
СУР'ЁЗНА, ХІБА МЫ НЕДАСТАТКОВА ЎЖО ТРАПЛЯЛІ Ў ПЕРАПЛЁТЫ?
НУ, ПАКОЛЬКІ МЫ НЕ СТАРАДАЎНІЯ ЗЛАЧЫНЦЫ І НЕ ПАЎСТАНЦЫ-ЗАБОЙЦЫ, ЛІЧУ, НАМ НІЧОГА НЕ ПАГРАЖАЕ.
І ЎВОГУЛЕ, З ЯКОГА ГЭТА ЧАСУ ВЫ ПАЧАЛІ ПАТУРАЦЬ НАШАМУ ЧАРАДЗЕЮ?
ПРАБАЧ, 355, АЛЕ МНЕ І ДАГЭТУЛЬ ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ ВА ЎСЁ ГЭТА.
НЕ, ГЭТА ПРЎДА! УСЁ ТАК, ЯК МНЕ АПІСВАЛА ФСБ!
ВЫДАТНА, АЛЕ КАЛІ ТАМ ТОЛЬКІ СВІННІ...
МУЖЧЫНА!


ХАЙДЗІ, АПРАЦУЙ ЯГО ДЭЗЫНФЕКЦЫЙНЫМ СПРЭЕМ!
ШТО ЗА...
ГЛЛАЎВАЎ!
СПЫНІЦЕСЯ!
M'E VAS POKHORONIM!


ВАЎ! ЛЯГЧЭЙ, ТЭЛЬМА І ЛУІЗА!
ГЭТА ТОЛЬКІ ДЭЗЫНФЕКЦЫЯ!
МЫ ПАВІННЫ ДАСТАВІЦЬ ГЭТАГА МУЖЧЫНУ Ў АБАРОНЕНУЮ ЗОНУ!
НЕ. У ГЭТАГА ХЛОПЦА ІМУНІТЭТ. МЫ ТУТ НЕ З-ЗА ЯГО.
ПРА ШТО ТЫ, ЧОРТ ДЗЯРЫ?
ЯНА ПРА ТОЕ, ШТО ВАМ ПАКУЛЬ НЯ ТРЭБА ЗДЫМАЦЬ ВАШЫ ІНШАПЛАНЕТНЫЯ ШМОТКІ, ЛЭДЗІ.
ЦЬФУ
ХУТКА Ў ВАС БУДУЦЬ ГОСЦІ, І НЯ З ГОРАДА.
ЁРЫК БРАЎН...


...І ЦЕРАЗ МАЛІТВЫ СВЯТОМУ МІКАЛАЮ ЦУДАТВОРЦУ, І СВЯТОМУ МІКІЦЕ НАЎГАРОДСКАМУ, ДАПАМАЖЫ Ж НАМ ПАСПЯХОВА ПРЫБЫЦЬ ДА НАШЫХ СЯСЦЁР. У ІМЯ БАЦЬКІ...
...І СЫНА...
...І СВЯТОЙ ДУШЫ.
ЦІ ТРЭБА КАЗАЦЬ "СВЯТОГА **ДУХУ**"? АПОШНІ РАЗ Я МАЛІЛАСЯ Ў **ВОСЕМ** ГАДОЎ.
Я **КАХАЮ** ЦЯБЕ, КІБА. І ЦЯБЕ **ТАКСАМА**, УЛАД.
ПАЧЫНАЮ АДСТЫКОЎКУ, КАПІТАН. МЫ СВАБОДНЫЯ.


AMEN.
Chapter Three
Адзін маленькі крок
Глава трэцяя
Пераклад – Артур Бараданоў
Афармленне – Сяргей Козыраў




**Олдэнбрук, Канзас.
Зараз.**




МЯНЕ ЗАВУЦЬ АГЕНТ 355. Я ПРАЦУЮ НА АМЕРЫКАНСКІ ЎРАД.
ХЛОПЕЦ, ЯКОГА ВЫ ТОЛЬКІ ШТО ПАЛІВАЛІ СА ШЛАНГА, ЁРЫК БРАЎН. МЫ НЯ ВЕДАЕМ, ЧАМУ ЁН ПЕРАЖЫЎ ЧУМУ.
АЛЕ МЫ ВЕДАЕМ, ШТО ЁН **МУЖЧЫНА**, А НЯ ХЛОПЕЦ.
НАТАЛЛЯ ЗАМЯЦІНА. ЯЕ ПАСЛАЛІ РУСКІЯ, КАБ ЯНА ВЯРНУЛА НАЗАД ІХ КАСМАНАЎТА.
DOBRAYE OOTRAH
І ЦАЦКА АМПЕРСЭНДА – ДОКТАР МАН, БІЯІНЖЫНЕР З...
ДОКТАР МАН?
ДОКТАР ЭЛІСАН МАН?


ГЭТА... ВЫ ІХ **ЗРАБІЛІ?**
ЯНЫ НЯ КЛОНЫ, ІДЫЁТ.
ЯНЫ **БЛІЗНЮКІ.**
ДОКТАР, МЯНЕ ЗАВУЦЬ ХІЗАР ХЕРТЛІ, А ГЭТА МАЯ СЯСТРА ХАЙДЗІ. МЫ ГЕНЕТЫКІ.
Я РЫДАЛА, КАЛІ ЧЫТАЛА ВАШ АРТЫКУЛ У "JAMA" ПРА АРГАНІЧНАЕ СВЯТЛОКАПІРАВАННЕ.
ЯК Я МЯРКУЮ, ВЫ НЯ ПРОСТА СКВАТЭРЫ.
НЕ, МЫ СЛУЖАЧЫЯ ГЭТАГА ГАРАЧАГА КОМПЛЕКСА.
**АДЗІНЫЯ** СЛУЖАЧЫЯ. АСТАТНІЯ ПАКІНУЛІ НАС НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ ТАМУ.
ДЫК ЗНАЧЫЦЬ ТУТ НЯМА ВЫЖЫЛЫХ **МУЖЧЫН?**
НІВОДНЫ ПАЛІТЫК, ЯКІ ТРАПІЎ ПАД ПРАГРАМУ **З.Б.П.У*,** ТУТ НЕ З'ЯЎЛЯЎСЯ. ТУТ ПРАЦАВАЛІ ТОЛЬКІ ЖАНЧЫНЫ.
У МУЖЧЫН... **ПРАБЛЕМА** З ІЗАЛЯЦЫЯЙ.
МАРКІТАВАНЫ...
ГАМОН.
*З.Б.П.У – ЗАБЕСПЯЧЭННЕ БЕСПЕРАПЫННАЙ ПРАЦЫ ЎРАДА – УСТАЛЯВАНЫ ЗАКОНАМ ПАРАДАК ДЗЕЯННЯЎ І ВЫЗНАЧАНЫХ ПРАЦЭДУР, ЯКІЯ ДАЗВАЛЯЮЦЬ УРАДУ ПРАЦЯГВАЦЬ СВАЮ ПРАЦУ Ў ВЫПАДКУ ЯДЗЕРНАЙ ВАЙНЫ ЦІ ІНШАЙ КАТАСТРОФЫ.


МНЕ ВЕЛЬМІ ШКАДА, ЁРЫК. АЛЕ ТЫ НЕ ПАВІНЕН ТРАЦІЦЬ НАДЗЕЮ.
ТОЕ, ШТО ЁН СКАЗАЎ, ПРАЎДА?
У ШАТЛЕ ЯШЧЭ ЁСЦЬ МУЖЧЫНЫ?
Я РАЗУМЕЮ ВАШ НЕДАВЕР, МНЕ ТАКСАМА СЛАБА ВЕРЫЦЦА Ў ГЭТА.
ПАСЛУХАЙЦЕ, НАМ ТРЭБА ЗАСЦЕРАГЧЫ АД НЕБЯСПЕКІ ГЭТЫ БУДЫНАК ПЕРАД ТЫМ, ЯК "САЮЗ" ПРЫЗЯМЛІЦЦА. КАЛІ ВЫ АДМОВІЦЕСЯ ЎПУСЦІЦЬ НАС УНУТР, МАЁ СТАНОВІШЧА Ў ГРУПЕ ВАЛАНЦЁРАЎ ДАЗВАЛЯЕ МНЕ...
РАССЛАБЦЕСЯ, ЛЭДЗІ. ДАВАННЕ СХОВІШЧА ЛЮДЗЯМ – СЭНС НАШАГА ІСНАВАННЯ. МЫ ЦЭЛЫ ГОД ЧАКАЛІ НЕШТА ПАДОБНАЕ.
ТАК, МІКАСА*, І ТАМУ ПАДОБНАЕ.
Я Б ЖАДАЛА ПРАВЕСЦІ НЕКАЛЬКІ ТЭСТАЎ НА ГЭТЫМ ХЛОПЦЫ.
*МІКАСА – СЕТКА ГАТЭЛЯЎ.
ІСУС, ЛЕПШ ЗАБІ МЯНЕ АДРАЗУ...


АЛТЭР, СТОЙ!
<ШТО, ЧОРТ ДЗЯРЫ, ТЫ РОБІШ? ЖАДА-ЕШ, КАБ ЯНЫ НАС ЎБАЧЫЛІ?>
<Я ЖАДАЮ ВАМ НЯ ДАЦЬ ЗАБІЦЬ АПОШНЯГА МАРКІТАВАНАГА МУЖЧЫНУ НА ЗЯМЛІ!>
<СУПАКОЙСЯ, САДЗІ, ТЫ Ж БАЧЫШ, ШТО ЯНЫ ЗНАХОДЗЯЦЦА ВЕЛЬМІ ДА-ЛЁКА, І ПРАЗ НАШ ЛАЙНОВЫ БІНОКЛЬ МЫ НІЧОГА НЯ ЎБАЧЫМ. ЦІ ТЫ ЗАБЫ-ЛАСЯ ЎСЁ ТОЕ, ШТО Я ТАБЕ КАЗАЛА ПРА РАЗВЕДКУ?>
<ПА-ТВАЙМУ Я ЗУСІМ ЛЯСНУТАЯ?>
<РАЗВЕДКУ? ДЫК ВЫ НЕ ЗБІРАЕЦЕСЯ СТРАЛЯЦЬ У ЯГО?>
<ТАДЫ... ШТО МЫ БУДЗЕМ РАБІЦЬ З ГЭТЫМ ХЛОПЦАМ, АЛТЭР?>
<МЫ ЗАБЯРОМ ЯГО Ў ІЗРАІЛЬ.>


<ГЭТА ДЗЕЎКА З ГРУПЫ КАЛПЕР, ПРА ЯКУЮ НАС ПАПЯРЭДЖВАЛА МАЦІ ЁРЫКА, ЗВЯЗАЛАСЯ З НЕЙКАЙ НАЙМІТКАЙ. ЗДАЕЦЦА, ЯНА БЫЛЫ СПЕЦПРЫЗАВЕЦ.>
<МЫ ЗБІРАЕМСЯ ВЫКРАСЦІ ЁРЫКА Ў ЯГО ВЫКРАДАЛЬНІЦ?>
<БЕЗУМОЎНА, **КАЛІ** ЗНОЙДЗЕМ СПОСАБ АДОЛЕЦЬ ЯГО ВЫКРАДАЛЬНІЦ.>
<ЗРАЗУМЕЛА, АЛЕ ЯКІМ ЧЫНАМ ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ ПЕРАКАНАЦЬ НЕЙКАГА АМЕРЫКАНСКАГА **ГОЯ*** АДПРАВІЦЦА З НАМІ НА РАДЗІМУ?>
<НУ, ТЫ Ж КЛАПАЦІШСЯ ПРА БУДУЧЫНЮ ІЗРАІЛЯ, ТАК ЖА?>
ГОЙ* – НЕЯЎРЭЙ
<МАБЫЦЬ, ЗАЧЫНІМ ЯГО Ў ПАКОІ З СЯМЮДЗЕСЯЦЦЮ ДЗВЮМА НЯВІННІЦАМІ. Я ЧУЛА, ПРА ГЭТА МАРЫЦЬ КОЖНЫ МУЖЧЫНА.>
<ЧАМУ ВЫ КАЖАЦЕ ПРА ЯГО ТАК, БЫЦЦАМ ЁН **ТЭРАРЫСТ**? ЁН ПРОСТА НЯВІНАВАТЫ ХЛОПЕЦ!>
<КОЖНЫ З НАС У ЧЫМСЬЦІ ВІНАВАТЫ.>
<ВА ШТО ВЫ ТУТ ГУЛЯЕЦЕ? КАЛІ МЫ ЎКРАДЗЕМ ЁРЫКА, АМЕРЫКА АБВЕСЦІЦЬ НАМ **ВАЙНУ**, КАБ ВЯРНУЦЬ ЯГО.>
<ВОХ, ЗАХАВАЙЦЕ ГЭТУ ЛУХТУ ДЛЯ НАВАБРАНЦАЎ.>
<КАЛІ НАМ ПАШАНЦУЕ.>




*І.С.А – ІЗРАІЛЬСКІЯ СІЛЫ АБАРОНЫ.


БЛЯХА, ЗНАДВОРКУ ГЭТА МЕСЦА ПАДОБНА НА СМОЛВІЛЬ, А ЎНУТРЫ – ГЭТА НЕЙКАЯ ЦЫТАДЕЛЬ САМОТЫ.
ДОБРА ВЫГЛЯДАЕШ, ЁРЫК.
ДАВАЙ, ДАЛУЧАЙСЯ ДА МЯНЕ, З'ЯСІ КАШКІ З ПАКЕЦІКА.
О БОЖА, ТОЛЬКІ НЕ ПАЁК, Я ХАРЧАВАЎСЯ ІМ НА ПРАЦЯГУ ЎСЯГО ТЫДНЯ, ПАКУЛЬ МЫ ДАБІРАЛІСЯ ДА ВАШЫНГТОНА. УСЕ СУПЕРМАРКЕТЫ БЫЛІ ПЕРАКРЫТЫЯ, АЛЕ Я ЗНАЙШОЎ НЕЙКАГА МЁРТВАГА ХЛОПЦА Ў ПЕНСІЛЬВАНІІ, І Ў ЯГО НА ЗАДНІМ ДВАРЫ БЫЎ БУНКЕР, ПАДРЫХТАВАНЫ ДЛЯ 2000-ГА ГОДА.
ДА ЛІХАМАТАРЫ ЎСЮ ГЭТУ ПАДРЫХТОЎКУ ДА ГОРШАГА, А? КОЖНЫ Ж БОЙСКАЎТ, ЯКОГА НАВУЧАЛІ "БЫЦЬ ПАДРЫХТАВАНЫМ", ЗАРАЗ ТРУП.
НА ШЧАСЦЕ, ГЭТА ТАКСАМА ДЭВІЗ ГЁРЛСКАЎТАЎ.
Я БЫЛА БРАЎНІ*.
*БРАЎНІ – ГЁРЛСКАЎТ МАЛОДШАГА ЎЗРОСТУ.


ХІЗАР І ХАЙДЗІ ТОЛЬКІ ШТО ПРАВЯЛІ ДЛЯ НАС ЭКСКУРСІЮ ПА НІЖНІМ УЗРОЎНІ, УСЁ Ў ІДЭАЛЬНЫМ СТАНОВІШЧЫ.
ТЭАРЭТЫЧНА КАСМАНАЎТЫ ЗМОГУЦЬ ПРАЖЫЦЬ ТАМ НА ПРАЦЯГУ ШМАТ ГАДОЎ, ПАКУЛЬ МЫ ЦАЛКАМ НЯ БУДЗЕМ УПЭЎНЕНЫЯ, ШТО ЧУМА ПРАЙШЛА.
ЦІ ПАКУЛЬ ДОКТАР МАН НЕ ПРЫДУМАЕ ЯКУЮ-НЕБУДЗЬ ВАКЦЫНУ.
НЕ! ГЭТА НЕДАПУШЧАЛЬНА!
СТАТУТ ААН ГАВОРЫЦЬ: "КАЛІ, З ПРЫЧЫНЫ НЯШЧАСНАГА ВЫПАДКУ, БЕДСТВА, НАДЗВЫЧАЙНАЙ СІТУАЦЫІ ЦІ НЕНАЎМЫСНАЙ ПАСАДКІ, ЭКІПАЖ КАСМІЧНАГА КАРАБЛЯ ПРЫЗЯМЛЯЕЦЦА НА ТЭРЫТОРЫІ ПАД ЮРЫСДЫКЦЫЯЙ ДАМОЎНАГА БОКУ, ТО ЯНЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ ШЧАСНА І ХУТКА ПАВАРОЧАНЫ ПРАДСТАЎНІКАМ УЛАДЫ ТОЙ КРАІНЫ, ЯКАЯ РАБІЛА ЗАПУСК!".
ШТО ЗА...? БІСКВІТНАЯ ПАЧВАРА РАЗМАЎЛЯЕ ПА-АНГЛІЙСКУ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ ТЫ. КАЛІ ТЫ ПАСПЕЛА ЎСЁ ГЭТА ВЫВУЧЫЦЬ?
Я ЗАПОМНІЛА ЎСЁ ГЭТА, ПАКУЛЬ ДАБІРАЛАСЯ ДА ШТАТАЎ НА КАРАБЛІ.
НАТАЛЛЯ, МЫ НЕ ЗБІРАЕМСЯ БРАЦЬ ВАШАГА КАСМАНАЎТА Ў ЗАЛОЖНІКІ. МЫ ТОЛЬКІ ЖАДАЕМ ЯГО АБСЛЕДАВАЦЬ.
ДЛЯ ІХ ЗНАХОДЗІЦЦА ЗНАДВОРКУ ВЕЛЬМІ РЫЗЫКОЎНА. У ЁРЫКА І АМПЕРСЭНДА МАГЧЫМА ЁСЦЬ ІМУНІТЭТ ДА ЧУМЫ, АЛЕ НАВАТ ЯНЫ...
BOOOOM


ШТО ГЭТА БЫЛО...?
"САЮЗ".
ТЫ КАЗАЛА, ШТО ЁН НЕ ЎВОЙДЗЕ Ў АТМАСФЕРУ ЯШЧЭ НА ПРАЦЯГУ **ТРОХ ГАДЗІН!**
МАБЫЦЬ ЯНЫ ПРЫЗЯМЛІЛІСЯ РАНЕЙ, КАБ ПАЗБЕГНУЦЬ НЕПАГОДЫ ЦІ...
У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ ЗАХАПІ З САБОЙ ЗБРОЮ, НАТАЛЛЯ.
А ВЫ, ЛЭДЗІ, ЧАКАЙЦЕ ЛЯ НІЖНІХ ДЗВЯРЭЙ.
ДОКТАР, НЯ ЗВОДЗЬЦЕ ВАЧЭЙ З ЁРЫКА.
**НЕ ХВАЛЮЙСЯ,** 355. Я БУДУ ДОБРА СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ.
СЛОВА СКАЎТА.


<ЦІ ТРЭБА НАМ ХВАЛЯВАЦЦА НАКОНТ ТАГО ДЫМУ?>
<НЯ ДУМАЮ. МАЕ **ЛЮДЗІ** СКАЗАЛІ, ШТО НАВАТ ПРЫ МЯККАЙ ПАСАДЦЫ РУХАВІКІ МОГУЦЬ СПАЛІЦЬ ПАЛОВУ ПОЛЯ. АЛЕ КАПСУЛА ЗМОЖА ВЫТРЫМАЦЬ ВЫСОКУЮ ТЭМПЕРАТУРУ.>
<АЛЕ Я ТРОХІ ЗАНЕПАКОЕНА ГЭТЫМ СТАНОВІШЧАМ. ПІЛАТАВАННЕ ГЭТЫХ КАНСЕРВАВЫХ БЛЯШАНАК – ГЭТА НЕ ДАКЛАДНАЯ НАВУКА, А ХІБНАСЦЬ МОЖА БЫЦЬ ДА ТРОХ ВЁРСТАЎ.>
<ВЁРСТАЎ?>
<ПРАБАЧ, ВЯРСТА ГЭТА КАЛЯ, ЭМ... АДНАГО КЛІКА.>
<**КЛІК**? ГЭТА САПРАЎДНАЕ СЛОВА? Я ЛІЧЫЛА, ШТО ЯГО ВЫКАРЫСТОЎВАЮЦЬ ТОЛЬКІ Ў ДРЭННЫХ ФІЛЬМАХ ПРА В'ЕТНАМ.>
<Я РАЗБІРАЮСЯ Ў МЕТРЫЦЫ, УСЁЗНАЙКА. Я З'ЯЎЛЯЮСЯ ЧАСТКАЙ ВАЕНІЗАВАНАЙ АРГАНІЗАЦЫІ З ШАСНАЦЦАЦІ ГАДОЎ, АЛЕ Я НІКОЛІ НЯ ЧУЛА, КАБ ХТО-НЕБУДЗЬ ВЫКАРЫСТОЎВАЎ...>
<ТЫ СУР'ЁЗНА? ЗРАЗУМЕЛА, ЯНО САПРАЎДНАЕ. КЛІК – ГЭТА АДЗІН КІЛАМЕТР... ГЭТА 0.62 **АМЕРЫКАНСКАЙ** МІЛІ.>
ТВАЮ Ж НАЛЕВА.


SHTO ЕТА?
ШТО ГЭТА?
“ДЖОН ДЗІР”*.
ТАК, АЛЕ ЧАМУ ЁН ВЫБУХНУЎ?
ХЛЕЎ.
*“ДЖОНДЗІР – ТАВАРНЫ ЗНАК КАМБАЙНАЎ І ТРАКТАРОЎ КАМПАНІІ “ДЗІР ЭНД КО”.
НАЗАД У ХЛЕЎ!


ГЭЙ, ДОК, А ВЫ БАЧЫЛІ ФОТАЗДЫМКІ ГЭТЫХ МУЖЫКОЎ З НАСА?
МАБЫЦЬ ВЫ ЗАКАХАЕЦЕСЯ Ў КАГО-НЕБУДЗЬ З ІХ.
ЛІЧУ, ШТО НАЎРАД, ЁР...
KROOOM
МІСТЭР БРАЎН, ВЫ ПОЙДЗЕЦЕ З НАМІ. **ЗАРАЗ ЖА.**


ХТО ВЫ, ХАЛЕРА, ТАКІЯ?
РУШЫЦЕ, І ВЫ ТРУП!
ПАЧАКАЙ-ЦЕ!
Я... Я ЗДАЮСЯ.
ТОЛЬКІ НІКОГА НЕ ЧАПАЙЦЕ. КАЛІ ЛАСКА.
ЁРЫК...
УЗЯЦЬ ЯГО, ДЗЯЎЧЫНКІ. МАЛПУ ТАКСАМА.
ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ Ў ГЭТЫМ?
У ЯЕ СНІД. І ЯНА КУСАЕЦЦА.
АР АЎ
<МЭМ?>
<ДОБРА, ПАКІНЬЦЕ ПРАКЛЯТУЮ ЖЫВЁЛІНУ ЖАНЧЫНЕ.>
<СЫХОДЗІМ!>


<ТЫ ЧУЕШ ГЭТА? ГЭТА БЫЦЦАМ **ШРУБАЛЁТ**… АМЕРЫКАНСКАЯ АРМІЯ?>
<ЁН НАБЛІЖАЕЦЦА ЦІ АДДАЛЯЕЦЦА?>
<НЕ МАГУ СКАЗАЦЬ…>
<ДОБРА, НЕ СТРАЛЯЙ, ПАКУЛЬ МЫ ПРА ЎСЁ НЕ ДАВЕДАЕМСЯ.>
<АЛЕ ГЭТЫЯ КУРВІСКІ АШУКАЛІ НАС!>
<МЫ НЯ ВЕДАЕМ, ЧОРТ ДЗЯРЫ, **ШТО** ЗДАРЫЛАСЯ! ТРЫМАЙ ЗБРОЮ НА ЗАСЦЕРАГАЛЬНІКУ ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ…>
<ІЗРАІЛЬЦЯНКІ?>
<АГОНЬ!>
BLAM


ВУХ!
НЕ!
<МЫ АТРЫМАЛІ ТОЕ, ЗА ЧЫМ ПРЫЛЯЦЕЛІ, УЗЛЯТАЕМ!>
<АЛТЭР, ПАЧАКАЙ! СЭЛТЗАР І КЛАРСФІЛД ЯШЧЭ НЕ ПРЫЙШЛІ!>
<ВЫДАТНА, ЯНЫ ЗАБЯСПЕЧАЦЬ НАМ ПРЫКРЫЦЦЁ, ПАКУЛЬ МЫ НЕ ЎЗЛЯЦІМ!>
ЯЛА!


ЁРЫК!
ТРЫМАЙ СВАЕ РУКІ ТАК, КАБ Я МАГЛА ІХ БАЧЫЦЬ...
BLAM
KLICK
<ФУХ... СПЫНІСЯ!>
ТОЛЬКІ НЯ ГЭТА...
KLICK KLICK KLICK


ААААААА!
BLAM BLAM BLAM
УНГ!
АДПУСЦІ ПІСТАЛЕТ!
ЛО! БЕВАКА-ША! АДВЯЗІЦЕ... АДВЯЗІЦЕ МЯНЕ Ў ГАТЭЛЬ!
Я ЗАБ'Ю ЦЯБЕ!
КОЛЬКІ ГЭТА КАШТУЕ! ЯК ПРАЙСЦІ Ў БІБЛІЯТЭКУ! ЯКАЯ ГЭТА СТАНЦЫЯ МЕТ...


ЁЎБАЛА.
TRISTA... PYATDESYAT...
ТРЫСТА... ТЫ ЖЫВАЯ?
НАТАЛЛЯ, ЯК ТЫ...?
<ЖЫЦЬ, ВОЙ, БУДУ. ПРАБАЧ МЯНЕ. ХАЛЕРА, НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ, ШТО ЗНЕПРЫТОМЕЛА. ТАКСАМА, ЯК І Ў ПЕРШЫ РАЗ, КАЛІ МЯНЕ ПАДСТРЭЛІЛІ. АСТАТНІЯ...>
<НЯ ВЕДАЮ, АЛЕ Я ДУМАЮ, ШТО ЯНЫ ЗАБРАЛІ ЁРЫКА.>
<ТАМ.>
<РАЦЫЯ. У АДНОЙ З ІХ РАЦЫЯ...>
КІМ БЫ ВЫ НІ БЫЛІ, ВЯРТАЙЦЕСЯ НАЗАД І ВЯРНІЦЕ МУЖЧЫНУ, ЗАРАЗ ЖА.
БЗЗЖ
АГЕНТ 355, ГЭТА ВЫ...?


КАЛІ ВЫ ГАВОРЫЦЕ ПА ГЭТЫМ КАНАЛЕ, Я МЯРКУЮ, ВЫ ТОЛЬКІ ШТО ЗАБІЛІ ДВУХ МАІХ САЛДАТАЎ. І З ЧАГО ВЫ ЎЗЯЛІ, ШТО Я ВЯРНУ МАЛАДОГА ЧАЛАВЕКА ТАКОЙ ПАЧВАРЫ, ЯК ВЫ?
ТАМУ ШТО ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН...
...Я ЗМАГУ ДАЦЬ ВАМ ДВУХ МУЖЧЫН У АБМЕН.
To Be Continued...


БОЖА, У МЯНЕ ТУТ УСЕ ПАКАЗЧЫКІ Ў ЧЫРВОНАЙ ЗОНЕ, ТОЛЬКІ НЕКАТОРЫЯ З ІХ ВЫХОДЗЯЦЬ ЗНОЎ У **ЗЯЛЁНУЮ**.
УЛАД, ЯК ЛІЧЫШ, ЖАНЧЫНЫ АРГАНІЗУЮЦЬ У НАШ ГОНАР ПАРАД?
СПАДЗЯЮСЯ НА ГЭТА, СЭР. НАВАТ НЯ ГОРШ ЧЫМ ГАГАРЫНУ У 61-ЫМ.
Я ВЕДАЮ, ЧАМУ ВЫ, ХЛОПЧЫКІ, ЖАРТУЕЦЕ, АЛЕ Я ЎЖО КАЗАЛА, ШТО ВАМ ТРЭБА СКАНЦЭНТРАВАЦЦА. КАЛІ МЫ НЯ ЗМОЖАМ НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ ШОКАВЫ СТАН...
ЯК ДУМАЕШ, УЛАД, КАГО ЯНЫ НАМ ТАМ ПАДРЫХТАВАЛІ? НЕЙКІХ СЭКСУАЛЬНЫХ МЕДСЯСЦЁР?
А МАБЫЦЬ, НЕКАЛЬКІ ВАШЫХ ЧЭРЛІДЭРШ?


Адзін Маленькі Крок
One Small Step
Chapter Four
А Я ТАК НЕ ЛІЧУ.
BRIAN K. VAUGHAN PIA GUERRA
Writer/Co-Creators/Penciller
JOSE MARZAN, JR., Inker
Clem Robins, Letterer Pamela Rambo, Colorist
Zylonol, Separator J.G. Jones, Cover Artist
Zachary Rau, Ass't Editor Will Dennis, Editor
Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA


ВЫ ХЛУСІЦЕ. АПОШНІ МУЖЧЫНА НА ЗЯМЛІ Ў НАС.
МАГЧЫМА... АЛЕ ЁН НЕ АПОШНІ МУЖЧЫНА Ў СУСВЕЦЕ.
ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY:
Сяргей Лісічонак
Олдэнбрук. Канзас. Зараз.
ШТО ВЫ НЕСЯЦЕ... ІНШАПЛАНЕЦЯНІНЫ?
НЕ КАЖЫ ЁЙ НІЧОГА, 355!
Я КАЖУ ПРА АСТРАНАЎТАЎ, І ДВОЕ З ІХ ЗДАРОВЫЯ МУЖЧЫНЫ. ВЫРАТАВАЛЬНАЕ СУДНА "САЮЗ" ПАКІНУЛА МІЖНАРОДНУЮ КАСМІЧНУЮ СТАНЦЫЮ І ХУТКА БУДЗЕ ТУТ.
ВЯРНІЦЕ НАМ ЁРЫКА, І ЯНЫ ВАШЫ.
NYET!


ЧОРТ, ДЫ ЗАБІ ЗЯПУ, НАТАЛЛЯ!
<ЯКОЕ ТЫ МАЕШ ПРАВА РАСПАРАДЖАЦЦА **МАІМ** МУЖЧЫНАМ? Я ПЕРАСЯКЛА ДЗЁЎБАНЫ АКІЯН, КАБ ВЯРНУЦЬ НАШАГА МАРКІТАВАНАГА КАСМАНАЎТА НАЗАД...>
КАЛІ ТЫ НЕ ЗАБ'ЕШ ЗЯПУ, Я ЎСАДЖУ Ў ЦЯБЕ **ДРУГУЮ** КУЛЮ, І ПАВЕР МНЕ, Я СТРАЛЯЮ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ **ЯНЫ**.
АГЕНТ, У ВАС УСЁ ДОБРА?
СЛУХАЙЦЕ ЎВАЖЛІВА, МЫ ЗБІРАЕМСЯ ПАДАБРАЦЬ АСТРАНАЎТАЎ У ЗОНЕ ПАСАДЦЫ І АДПРАВІЦЬ ІХ У ХЛЕЎ, ДЗЕ ВЫ ВЫКРАЛІ ЁРЫКА.
СУСТРАКАЕМСЯ ТАМ СЁННЯ НОЧЧУ І РОБІМ АБМЕН.
ВЫ МЯРКУЕЦЕ, ШТО Я Ў ГЭТА **ПАВЕРУ**?
І, АКРАМЯ ТАГО, НАВАТ КАЛІ ГЭТА **ТАК**, НАВОШТА ВАМ АХВЯРАВАЦЬ ДВУМА ДАРОСЛЫМІ МУЖЧЫНАМІ ДЗЕЛЯ АДНАГО ХУДОГА ХЛОПЦА?
ТАМУ ШТО Я... Я КАХАЮ ЯГО.


ЯНА ШТО?
ТАААК... ГЭТА НАРЭШЦЕ ПАЧЫНАЕ ЗДАБЫВАЦЬ НЕЙКІ СЭНС.
ДОБРА, ТАДЫ СУСТРАКАЕМСЯ СЁННЯ НОЧЧУ. АЛЕ КАЛІ ВАШАГА ВЫРАТАВАЛЬНАГА СУДНА НЯ БУДЗЕ... ВЫ БОЛЬШ НІКОЛІ НЕ ЎБАЧЫЦЕ СВАЙГО КАХАНАГА.
КАНЕЦ СУВЯЗІ.
<ПІЛОТ, ПРЫЗЯМЛЯЕМСЯ!>
<У НАС ЁСЦЬ СПРАВА, ЯКУЮ ТРЭБА СКОНЧЫЦЬ...>


ТЫ ЛЯСНУТАЯ, БЕЗРАЗВАЖНАЯ ІДЫЁТКА. ЯНЫ **НІКОЛІ** НЯ ВЕРНУЦЬ ТАБЕ ЁРЫКА!
<ЯНЫ ЗАБЯРУЦЬ АДЗІНАГА МУЖЧЫНУ МАЁЙ КРАІНЫ І ЦАЛКАМ НАС ЗНІШЧАЦЬ! А ЎСЁ ГЭТА З-ЗА ЧАГО? З-ЗА ДУРНОГО МОЦНАГА **КАХАННЯ**.>
НАТАЛЛЯ, НЯ БУДЗЬ ДУРНІЦАЙ. Я НЕ ДАЗВОЛЮ ІМ ЗАБРАЦЬ ВАШАГА КАСМАНАЎТА , І Я, ЗРАЗУМЕЛА, НЕ ЗАКАХАЛАСЯ Ў ЁРЫКА.
Я СКАЗАЛА ГЭТА, КАБ ЯНЫ МНЕ ПАВЕРЫЛІ І ВЯРНУЛІСЯ НАЗАД.
<ПРАБАЧ, МАЯ АНГЛІЙСКАЯ МОВА **ВЫДЫХНУЛАСЯ**... А Я ЛІЧЫЛА, ШТО ТЫ НАЎМЫСНА ПРЫНАДЖВАЕШ УВЕСЬ ІХ **АТРАД** НАЗАД, ДА ЛЮДЗЕЙ, ЯКІЯ **ЗАБІЛІ** ДВУХ ІХ САЛДАТАЎ!>
ЗЗЗ!
ДОКТАР МАН!
Я ВЕДАЮ. З ВАМІ ЎСЁ Ў ПАРАДКУ?
ЯНЫ... ЯНЫ ЗАБРАЛІ ЁРЫКА.
ЖЫЦЬ БУДУ, А ВОСЬ ХІЗАР І ХАЙДЗІ АД ГЭТЫХ ГАЛАВАРЭЗАК МОЦНА ДАСТАЛАСЯ, КАЛІ ТЫЯ ЎВАРВАЛІСЯ Ў НАША СХОВІШЧА.
НА НАС НАПАЛІ **ІЗРАІЛЬЦЯНКІ**?
НАВОШТА? Я МАЮ НА ЎВАЗЕ, МЫ Ж **ЯЎРЭЙКІ**.
ПРА МАТЫВЫ ПАРАЗВАЖАЕМ ПАЗНЕЙ. ЗАРАЗ МНЕ ТРЭБА, КАБ ВЫ ПАДРАМАНТАВАЛІ ПЛЯЧО НАТАЛЛІ НАСТОЛЬКІ ДОБРА, ЯК ЗМОЖАЦЕ.
У НАС ЁСЦЬ СПРАВА, ЯКУЮ ТРЭБА СКОНЧЫЦЬ...


ГЭТА ПАСТКА!
ЯНА... ЯНА ПРЫДУМАЛА ГЭТУ ЛУХТУ ПРА МУЖЫКОЎ З НАСА, КАБ ПРЫНАДЗІЦЬ ВАС. ДАВАЙЦЕ ЗАСТАНЕМСЯ ТУТ І ПРАЦЯГНЕМ КАТАВАННІ ЦІ ЯШЧЭ ШТО-НЕБУДЗЬ.
<ЧЫМ БОЛЬШ ЁН НАС АДГАВОРВАЕ, ТЫМ БОЛЬШ Я ПАЧЫНАЮ ВЕРЫЦЬ У ВЕРСІЮ АМЕРЫКАНСКАЙ ДЗЕЎКІ.>
<Я Ў ГЭТЫМ НЕ ЎПЭЎНЕНА, АЛТЭР. МНЕ ЎСЁ ГЭТА ЗДАЕЦЦА НЕЙКІМ ГЛУПСТВАМ.>
<У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, АДЗІН ХЛОПЕЦ, ЯКІ ЎЖО Ў НАС У РУКАХ, ЛЕПЕЙ, ЧЫМ ДВОЕ НЕВЯДОМА ДЗЕ, ХІБА НЯ ТАК?>
<ЗНАЧЫЦЬ, ВЫ ЗБІРАЕЦЕСЯ І ХЛОПЦА САБЕ ЗАСТАВІЦЬ І ЗАВАЛОДАЦЬ ГЭТЫМІ АСТРАНАЎТАМІ?>
<САДЗІ, КАЛІ ХТО-НЕБУДЗЬ ЯШЧЭ, АКРАМЯ ІЗРАІЛЯ, ЗАВАЛОДАЕ МУЖЧЫНАМ, ТО НАША НАЦЫЯ СТРАЦІЦЬ ТЫЯ МАГЧЫМАСЦІ І СІЛЫ, ЯКІЯ ІДУЦЬ РАЗАМ З ЁРЫКАМ.>
<Я РАБЛЮ ТОЕ, ШТО ПАВІННА.>
<МЕНАВІТА ТАМУ МЫ І ПРАВЯДЗЕМ БОЙ ЗНАДВОРКУ.>
<АЛЕ ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ ЁРЫК МАЕ РАЦЫЮ НАКОНТ ТАГО, ШТО АМЕРЫКАНКІ ПАДРЫХТОЎВАЮЦЬ ПАСТКУ ЎНУТРЫ ХЛЕВА!>
<НАІМ, Я ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ПРЫВЯЛА АСТАТНІХ ДА БУДЫНКА, ЯКІ МЫ АТАКАВАЛІ. ПРАСАЧЫЦЕ ЗА АМЕРЫКАНЦАМІ ДА МЕСЦА ПРЫЗЯМЛЕННЯ НА БЯСПЕЧНАЙ АДЛЕГЛАСЦІ.>
<У АГЕНТА ГРУПЫ "КАЛПЕР" АДНА З НАШЫХ РАЦЫЙ, ТАМУ БУДЗЬЦЕ Ў РЭЖЫМЕ РАДЫЁМАЎЧАННЯ ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ Я З ВАМІ НЕ ЗВЯЖУСЯ З ДАЛЕЙШЫМІ ІНСТРУКЦЫЯМІ.>
BEHTZLACHA!




*ГІБЕРЫШ – НЕШТА НЕВЫРАЗНА-БЯССЭНСАВАЕ.




УЎ, НАПЭЎНА, ТУТ Я ПАВІНЕН БЫЎ УРАЗІЦЦА ВАШЫМ ВЫДАТНЫМ "ІНТЭЛЕКТАМ"?
КОЖНЫ, ХТО ЧЫТАЎ МОЙ УДАСТОЕНЫ ЎЗНАГАРОД **АРТЫКУЛ** У ГАЗЕЦЕ, ВЕДАЕ, ШТО Я РАБЛЮ.
НЕ, ВЫ ПАВІННЫ ЗДЗІВІЦЦА **НАРУЧНІКАМ**, АД ЯКІХ ВЫ ЎЖО ГАДЗІНУ СПРАБУЕЦЕ ПАЗБАВІЦЦА.
ІХ РАСПРАЦАВАЎ МАСАД, І Я НА СТО ПРАЦЭНТАЎ УПЭЎНЕНА Ў ІХ НАДЗЕЙНАСЦІ.
АДЗІНЫ ПАЛЕСЦІНЕЦ, У ЯКОГА АТРЫМАЛАСЯ ЎЦЯЧЫ З ТУРМЫ МЕГІДА, БЫЎ ВЫМУШАНЫ АДПІЛАВАЦЬ САБЕ ЛЕВУЮ РУКУ, КАБ ВЫЗВАЛІЦЦА...
ГЭТЫМ ВЫ СПРАБУЕЦЕ ЗАГНАЦЬ МЯНЕ Ў **ПАСТКУ БЯЗВЫХАДНАСЦІ**? ВЫ ХТО, **ЗЛАЧЫНЦЫ З БЭТМЭНА**?
СУР'ЁЗНА, НАРОД, Я ДУМАЎ, ШТО ВЫ ЛІЧЫЦЕСЯ **ДОБРЫМІ РАБЯТАМІ**.
НАВАТ НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТОЕ ЛАЙНО, ШТО ЗРАБІЎ ВАШ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР, МАЕ БАЦЬКІ ЗАЎСЁДЫ БЫЛІ ПРЫХІЛЬНІКАМІ ІЗРАІЛЯ. ДЫ ВЫ Ж НАПЭЎНА ВЕДАЕЦЕ, ХТО МАЯ МАЦІ, ТАК ЖА?
<ПАДАЗРАЮ, ШТО НАВАТ ЛЕПЕЙ, ЧЫМ ТЫ ДУМАЕШ.>
ШТО ТЫ ТОЛЬКІ ШТО СКАЗАЛА? ТЫ АБРАЗІЛА МАЮ **МАЦІ**? СКАЖЫ ГЭТА ПА-АНГЛІЙСКУ, САЛДАТ ДЖЭЙН, Я КІДАЮ ТАБЕ **ВЫКЛІК**!
<ПРЫШПІЛЬ ЯГО НАРУЧНІКАМІ ДА АДНАГО З СЯДЗЕННЯЎ У ШРУБАЛЁЦЕ.>
<КАЛІ БУДЗЕ КРЫЧАЦЬ, ВЫРУБІ ЯГО.>



ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ГЭТА ТУТ?
АБСАЛЮТНА. ЦЯПЕР ЗАСТАЛАСЯ ТОЛЬКІ ЧАКАЦЬ.
Я ДА ГЭТАГА ЧАСУ НЕ РАЗУМЕЮ, НАВОШТА ВЫ ЎЗЯЛІ МЯНЕ З САБОЙ, 355.
Я ЎЖО КАЗАЛА ВАМ, ШТО БЛІЗНЯТАМ ЛЕПЕЙ ЗАСТАВАЦЦА Ў ГАРАЧЫМ КОМПЛЕКСЕ.
...ЗАЙМАЕЦЦА ІНШАЙ СПРАВАЙ, ПРА ЯКУЮ Я ЯЕ **ПАПРАСІЛА**, ДОКТАР. КАЛІ МОЙ ПЛАН СПРАЦУЕ, МЫ СПАКОЙНА СУСТРЭНЕМ АСТРАНАЎТАЎ І ВЕРНЕМ ЁРЫКА.
АЛЕ НАТАЛЛЯ...
А КАЛІ НЕ СПРАЦУЕ?
<ГЭТА ЯНА, НАІМ? ЯНА ЗАБІЛА СЭЛТЗАР І КЛАРСФІЛД?>
<АДКУЛЬ, ЧОРТ ДЗЯРЫ, МНЕ ВЕДАЦЬ? АКРАМЯ ТАГО, МЫ ТУТ НЕ ДЗЕЛЯ ПОМСТЫ.>
<ПРЫНАМСІ, **ПАКУЛЬ**...>


ГЭЙ, ТЫ РАЗМАЎЛЯЕШ ПА-АНГЛІЙСКУ?
СЯДЗІЦЕ МОЎЧКІ.
БУДУ ЛІЧЫЦЬ, ШТО **ТАК**. СЛУХАЙ, ЗДАЕЦЦА, ТЫ САМЫ АДЭКВАТНЫ ЧАЛАВЕК З УСЁЙ ГЭТАЙ КАМПАНІІ. У ЦЯБЕ ГЭТА НА ТВАРЫ НАПІСАНА.
МАГЧЫМА, ТЫ ЛІЧЫШ, ШТО ТОЛЬКІ ВЫКОНВАЕШ ЗАГАДЫ... АЛЕ НЕ ЗАБЫВАЙСЯ, ЯК ГЭТЫЯ АДГАВОРКІ ЎСПРЫНЯЛІ Ў **НЮРНБЕРГЕ**.
КАЛІ ВЫ СПРАБУЕЦЕ ЗАСЛУЖЫЦЬ МАЮ ПРЫХІЛЬНАСЦЬ, Я Б НЯ РАІЛА ВАМ ПАРАЎНАЦЬ МЯНЕ З ЛЮДЗЬМІ, ЯКІЯ ЗАБІЛІ МАЙГО **ПРАДЗЕДА**.
ОЎ.
АКРАМЯ ТАГО, ГЭТА ЖАНЧЫНА ВЫРАТАВАЛА МЯНЕ АД КУЛІ Ў ХЕЎРОНЕ. ЯК... ЯК ПАСЛЯ **ГЭТАГА** Я МАГУ ЗДРАДЗІЦЬ ЁЙ? ЯК Я МАГУ...
САДЗІ!
ІДЗІ СЮДЫ, ТУТ ШТОСЬЦІ АДБЫВАЕЦЦА.


ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА? Я ЖАДАЮ ПАБАЧЫЦЬ!
BEN ZSONA
НЕ МАГУ Ў ГЭТА ПАВЕРЫЦЬ.
З НЕБА ПАДАЮЦЬ МУЖЧЫНЫ.
АЛІЛУЯ.


<САДЗІ, ПРЫКРЫЙ МЯНЕ, ПАКУЛЬ Я РАЗВІНАЮ **С.Э.М***.>
<С.Э.М?>
*С.Э.М – РАКЕТА КЛАСА ЗЯМЛЯ-ПАВЕТРА.
<СТАРЫ СЯБР.>
<ВЫ... ВЫ, МА-БЫЦЬ, **ЖАРТУЕЦЕ**, ТАК?>


<У НАС НЯМА ЧАСУ МАНЕРНІЧАЦЬ НАКОНТ ГЭТАГА. НАМ ПАТРЭБНЫ ТОЛЬКІ АДЗІН МУЖЧЫНА, ГЭТА ГАРАНТЫЯ НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БЯСПЕКІ. ІНШЫЯ СТАЛІ Б ПРОСТА ЦЯЖАРАМ.>
<Я СКАЗАЛА ТАБЕ ЗАСТАВАЦЦА СА МНОЙ, ТАМУ ШТО Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ...>
<ПАКЛАДЗІЦЕ ГЭТА НА МЕСЦА.>
<... ЦІКАВА.>
<Я СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ПАМЯТАЕШ ПАКАРАННЕ ЗА **ЗДРАДНІЦТВА**?>
<ГЭТА ТРЭБА СПЫНІЦЬ, АЛТЭР. Я ПАЧЫНАЮ РАЗУМЕЦЬ, ШТО БЯСКОНЦАЯ БІТВА ГЭТА ЯК... ЯК ВАЙНА БЕЗ **ПЕРАМОЖЦАЎ**.>
<ТЫ ПРЫМАЕШ ВЕЛЬМІ ДРЭННАЕ РАШЭННЕ.>
<МАГЧЫМА, АЛЕ Я, НАРЭШЦЕ, АДВАЖЫЛАСЯ. ГЭТА ТОЕ, ШТО Я ПАВІННА БЫЛА ЗРАБІЦЬ ВЕЛЬМІ ДАЎНО...>


KRAK
<ПРАБАЧ МЯНЕ, МАЛЮТКА.>
<ТЫ ВЕЛЬМІ ДОБРАЯ ДЗЯЎЧЫНКА...>
<...АЛЕ ЧАСАМ МЫ ПАВІННЫ РАБІЦЬ ЖУДАСНЫЯ РЭЧЫ НА КАРЫСЦЬ СВЕТУ.>


NO!
МАБЫЦЬ, Я І НЯ ВЕДАЮ, ЯК ВЫЗВАЛІЦЦА АД **ГЭТАЙ** ШТУКІ...
...АЛЕ Я ДАКЛАДНА ВЕДАЮ, ЯК ЗНЯЦЬ ЯЕ З ДЗЁЎБАНАГА СЯДЗЕННЯ!
ННН!


ШТО ЗА ЛІХАМАТАР!
ШТО ГЭТА БЫЛО?
КХА КХА КХА
ДЫ ТЫ, КУРВІСКА, ЖЫВЁЛІНА!
КАЛІ Б РАКЕТА ЗБІЛА ТЫХ ЛЮДЗЕЙ, Я Б ДА СМЕРЦІ ЗАБІЎ БЫ ЦЯБЕ ТВАЁЙ МАРКІТАВАНАЙ...
<НАІМ... ВЫРАТАВАЛЬНАЕ СУДНА... НЯ ДАЙЦЕ ІМ УЦЯЧЫ.>
ТЫ ШТО РОБІШ?
СПЫНІ ГЭТА!
<...ЗАБІЦЕ АМЕРЫКАНАК...>


ЗАБІ ЗЯПУ!
ДОКТАР, ПРЫХІЛІЦЕСЯ!
<ВЫ ЧУЛІ ЯЕ! АГОНЬ НА ПАРАЖЭННЕ!>




*ПВ – ПАЛЯВЫЯ ВОЙСКІ


БЕДНЫЯ ГЛУПЫЯ ДЗЕТКІ.
ЯК РЫБА, ЯКАЯ Б'ЕЦЦА Ў РЫБНІКУ...
Я ЎПЭЎНЕНА, ХОЦЬ АДНА З ВАС РАЗМАЎЛЯЕ ПА-АНГЛІЙСКУ, ТАМУ СЛУХАЙЦЕ МЯНЕ ЎВАЖЛІВА!
НА ЛІК ТРЫ Я ЗБІРАЮСЯ ПАДНЯЦЦА. КАЛІ ВЫ АПУСЦІЦЕ СВАЮ ЗБРОЮ І ПАДНІМІЦЕ РУКІ ЎВЕРХ, БОЛЬШ НІХТО НЕ ПАПАКУТУЕ.
ГЭТА НІКОЛІ НЕ СПРАЦОЎВАЕ, 355! ЗДАЕЦЦА, ІХ ТАМ З ДЗЕСЯТАК, І ТОЛЬКІ ПАРА З...
КАЛІ ВЫ ПАСПРАБУЕЦЕ ПРЫСТРЭЛІЦЬ МЯНЕ, У ВАС ГЭТА, БЕЗУМОЎНА, АТРЫМАЕЦЦА, АЛЕ МОЙ СНАЙПЕР БОЛЬШ НЯ БУДЗЕ СТРАЛЯЦЬ ПА КАНЕЧНАСЦЯХ І НАЦЭЛІЦЦА Ў ВАШЫ **ГОЛАВЫ**. ВЫБАР ЗА ВАМІ!
АДЗІН... **ДВА**...
ТРЫ.




*МАЁР ТОМ – ВЫДУМАНЫ КАСМІЧНЫ ПЕРСАНАЖ, СТВОРАНЫ ДЭВІДАМ БОЎІ.




Працяг будзе...


ЁСЦЬ ТАМ ХТО-НЕБУДЗЬ?
Олдэнбрук. Канзас.
Зараз.
355? ШТО ЗДАРЫЛАСЯ? ЁСЦЬ ВЫЖЫЛЫЯ?
БОЖА МОЙ.


One Small Step
Conclusion
ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY: Сяргей Лісічонак
У ІХ АТРЫ- МАЛАСЯ.
BRIAN K. VAUGHAN Writer PIA GUERRA Penciller
JOSE MARZAN, JR., Inker
Clem Robins, Letterer Pamela Rambo, Colorist
Zylonol, Separator J.G. Jones, Cover Artist
Zachary Rau, Ass't Editor Will Dennis, Editor
Y: THE LAST MAN CREATED BY BRIAN K. VAUGHAN AND PIA GUERRA


ЗSS!
ДОКТАР МАН?!
ВЫ Ж ПАВІННЫ БЫЛІ ВАРТАВАЦЬ...
ІЗРАІЛЬЦЯНКІ ПАД КАНТРОЛЕМ НАТАЛЛІ. ЯНА СКАЗАЛА МНЕ ДАПАМАГЧЫ ВАМ...
ЯНЫ ЖЫВЫЯ!
МЫ **ПАВІННЫ** ДАПАМАГЧЫ ІМ!
**НЕ!**
АЛЕ ЯНЫ ПРАБЫЛІ **МЕСЯЦЫ** Ў БЯЗВАЖКАСЦІ! ЯНЫ НЯ ЗМОГУЦЬ УТРЫМАЦЦА НА НАГАХ БЕЗ...
**Я** ПАКЛАПАЧУСЯ ПРА ГЭТА, ДОКТАР!
ЧОРТ ДЗЯРЫ, ПРОСТА АДЫДЗІЦЕ НАЗАД!



ВЫ Ў ПАРАДКУ?
УЦЕЧКА ГІДРАЗІНУ... У КАБІНЕ...
СУПА-КОЙЦЕ-СЯ! КХХА
Я ДАПАМАГУ КХА КХА КХА
ХАДЗЕМЦЕ! НАМ **ТРЭБА** ВЫЦЯГНУЦЬ ІХ АДТУЛЬ!
ДОКТАР, Я Ж СКАЗАЛА ВАМ...
УФФ!
ДЫ ЗАБІ, БЛЯ, ЗЯПУ І ІДЗІ!
СПАКОЙНА! ТОЛЬКІ НЯ ТРЭБА РВАЦЬ ІХ СКАФАНДРЫ. КАЛІ ТОЕ, ШТО ЗАБІЛА ЎСІХ МУЖ-ЧЫН, УСЁ ЯШЧЭ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў АТМАСФЕРЫ, ГЭТА...
ЯНЫ СКАЗАЛІ, ШТО ТАМ **УЦЕЧКА ГІДРАЗІНУ**, ЧОРТ ДЗЯРЫ! КАЛІ МЫ НЕ ПАСПЯ-ШАЕМСЯ, "САЮЗ" МОЖА...


КУРВІСКА.
КУРВІСКА!
КУРВІІІІСКА!
НЕ, 355!
АДЧАПІСЯ!
МІЛАЯ, ПАСЛЯ ТАКОГА НІХТО Б НЯ ВЫЖЫЎ!
ГЭТЫЯ ЛЮДЗІ МЁРТВЫЯ, РАЗ-УМЕЕШ? ЯНЫ **МЁРТВЫЯ**.
ДАВАЙ ЛЕПШ ПАКЛАПА-ЦІМСЯ ПРА ВЫЖЫЛАГА.


УСЁ Ў ПАРАДКУ? Я ЧУЎ **ВЫБУХ**.
**ЁРЫК?**
**ДОКТАР МАН?** ШТО ТАМ, ЧОРТ ДЗЯРЫ, ЗДАРЫЛАСЯ?
АДБЫЎСЯ НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК, ЁРЫК. МЫ **СТРАЦІЛІ**... ДВУХ КАСМАНАЎТАЎ. АЛЕ АДЗІН З ІХ УСЁ ЯШЧЭ ЖЫВЫ.
ГЭТА ХТОСЬЦІ З ХЛОПЦАЎ?
ГЭТА... ГЭТА НЯ МАЕ ЗНАЧЭННЯ, ЁРЫК. МЫ ПАВІННЫ РАДАВАЦЦА ТАМУ, ШТО ПАСПЕЛІ ВЫРАТАВАЦЬ ХОЦЬ КАГОСЬЦІ.


ШТО ГЭТА **ЗНАЧЫЦЬ**?
ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ, ШТО ВЫЖЫЛА ТОЛЬКІ **ЖАНЧЫНА**.
МНЕ ШКАДА.
ГЭТА АВАРЫЯ. **АЛТЭР** НЕ ВІНАВАТА Ў ГЭТЫМ... ТАК ЖА?
АДЫДЗІ АД МЯНЕ!
А ТАБЕ ЯКАЯ ДА ГЭТАГА СПРАВА, **КУРВІСКА**?
САДЗІ. МЯНЕ ЗАВУЦЬ САДЗІ.
А ТЫ ДУМАЕШ, ЧАМУ Я БЫЛА Ў АДКЛЮЧЦЫ? Я СПРАБАВАЛА **СПЫНІЦЬ** ЯЕ. Я...
СТОЙ!
Я ВЫБІЎ УСЁ ЛАЙНО З ТВАЙГО БОСА, І Я... МАГУ ЗРАБІЦЬ ТОЕ Ж САМАЕ З ТАБОЙ.
ГЭТА НЯ ЗБРОЯ, ЁРЫК.
ГЭТА ПЕРАМІР'Е.




*НЕКАЛЬКІ ДОБРЫХ ХЛОПЦАЎ – АМЕРЫКАНСКІ ФЛЬМ ПРА АРМІЮ.


ЁСЦЬ ХТО ДОМА?
АК АК АК
ААА!
ВОЎ... ПРЫВІТАННЕ, АМПЕРСЭНД.
Я ТАКСАМА РАДЫ ЦЯБЕ БАЧЫЦЬ, СЯБРА.
АЛЕ ЧЫМ ГЭТА **СМЯРДЗЯЦЬ** ТВАЕ ЛАПЫ?
ЁРЫК!


355.
ТЫ Ў ПАРАД-КУ?
НЕ-А.
ЯК ТАМ НАШ КАСМІЧНЫ КУРСАНТ?
АЧЫНАЕЦЦА Ў ГАРАЧЫМ КОМПЛЕКСЕ. ДОКТАР МАН І БЛІЗНІЦЫ ЛІЧАЦЬ, ШТО З ЁЙ УСЁ БУДЗЕ ДОБРА.
АЛЕ ЁРЫК, ТЫЯ ДВА **МУЖЧЫНЫ**...
ВЕДАЮ, УЖО ЧУЎ. НАТАЛЛЯ ПАВЕДАМІЛА МНЕ ПРА ГЭТЫ КАШМАР, ПАКУЛЬ МЫ РАЗБІРАЛІСЯ З ГЭТЫМІ ІЗРАІЛЬСКІМІ САЛДАТАМІ, ЯКІХ ВЫ ЗЛАВІЛІ.
ПАЧАКАЙ, РАЗБІРАЛІСЯ З ІМІ, **ЯК**?


МЫ АДПРАВІЛІ ІХ НАЗАД ДА САДЗІ. ЯНА ДОБРА НАВУЧАНЫ МЕДЫК, ЯКІ ЗМОЖА ПАДЛАТАЦЬ ДЗЯЎЧАТ, ВЫ, ДЗЯЎЧЫНКІ, НЯДРЭННА ІХ ЗРАШЭЦІЛІ.
ШТО ЯШЧЭ ЗА **САДЗІ**?
ІХ НОВЫ ЛІДАР. СТАРЫ ЗВЯЗАНЫ І АДДАДЗЕНЫ ПАД ТРЫБУНАЛ, ЦІ ШТОСЬЦІ НАКШТАЛТ ТАГО. ГАЛОЎНАЯ Ў ІХ ЦЯПЕР САДЗІ. ЯНА ДОБРЫ ЧАЛАВЕК.
ТАК, А ПОТЫМ ДАПАМАГЛА МНЕ ЎЦЯЧЫ.
ЯНА ДАПАМАГЛА ІМ **ВЫКРАСЦІ** ЦЯБЕ!
ДЫК ШТО, ЦЯПЕР МЫ ПРОСТА **ДАДЗІМ ІМ УЛЯЦЕЦЬ**?
А ШТО НАМ ЗАСТАЕЦЦА РАБІЦЬ, 355? ПАБУДАВАЦЬ ЛАГЕР ДЛЯ ЎСЯГО ЎЗВОДА?
АКРАМЯ ТАГО, НАТАЛЛЯ ЗАБРАЛА Ў ІХ ЗБРОЮ І ЦАЛКАМ ІХ НЕЙТРАЛІЗАВАЛА. ЯНЫ РАЗБІТЫЯ І ЗЛОМЛЕНЫЯ І... І ЎСЁ, ШТО ЯНЫ ЗАРАЗ МОГУЦЬ – ГЭТА ВЯРНУЦЦА Ў ІЗРАІЛЬ ПАДЦІСНУЎШЫ ХВАСТЫ, ХІБА НЯ ТАК?
ГЭТА ДАВОЛІ-ТАКІ ВЕЛІКАДУШНЫ ЖЭСТ ДЛЯ ХЛОПЦА, ЯКІ ЯШЧЭ НЯДАЎНА ЖАДАЎ ЗАЧЫНІЦЬ ПАД ЗАМОК У МЭРЫСВІЛЕ ЎСІХ ЖАНЧЫН, ЯКІЯ ТРАПІЛІ Ў ЯГО ПОЛЕ ПОЗІРКУ.
ТАК... ВЕДАЮ.
АЛЕ Ў ТОЙ СІТУАЦЫІ БЫЛІ ДВА ВАРЫЯНТЫ: ЦІ ТАК, ЦІ ПАСТАВІЦЬ ІХ УСІХ ДА СЦЕНКІ.
А Я, ЗДАЕЦЦА, УЖО ВЫЧАРПАЎ ЛІМІТ СМЕРЦЯЎ, ЯКІ МАГУ ПРЫНЯЦЬ.




*ГЕРОЙ – ПА-АНГЛІЙСКУ ГУЧЫЦЬ ЯК "HERO", ТАК ЗАВУЦЬ СЯСТРУ ЕРЫКА "HERO".




ЗАБУДЗЬСЯ.
Я НАВАТ ЯЕ ІМЯ НЕ ЖАДАЮ ЧУЦЬ.
ДОБРА. Я ЯШЧЭ ПАВІННА ЗАПОМНІЦЬ, ШТО ТРЭБА НАЗЫВАЦЬ ТЫЯ СЭНДВІЧЫ САБАМІ... НУ, ТЫ ЗРАЗУМЕЎ.
РАЗУМНАЯ, ТАК?
ГЭЙ, Я ЖАДАЎ СПЫТАЦЬ У ЦЯБЕ ШТОСЬЦІ.
КАЛІ ТЫ СПРАБАВАЛА ПЕРАКАНАЦЬ ІЗРАІЛЬЦЯНАК ВЯРНУЦЬ МЯНЕ, ТЫ СКАЗАЛА ІМ, ШТО КАХАЕШ МЯНЕ. ТЫ... ГЭТА Ж НЕСУР'ЁЗНА, ТАК ЖА?
МУЖЫК, Я ЦЯБЕ ПРАШУ.
ВУУХ.
Я СПАДЗЯВАЎСЯ, ШТО ТЫ ТАК СКАЖАШ.
ХЕХ, ТАК...


НЕБЯСПЕЧНА!
УЗРОВЕНЬ БІЯЛАГІЧНАЙ БЯСПЕКІ 4
ШЛЮЗАВЫЯ ДЗВЕРЫ / АБЕЗЗАРАЖВАЛЬНЫ ДУШ
БЕЗ КАСЦЮМА ХІМАХОВЫ НЕ ЎВАХОДЗІЦЬ
ДОКТАР ВЭБЕР?
ВАЎ, **ДАЎНО** МЯНЕ ТАК НЕ НАЗЫВАЛІ.
КІБА БУДЗЕ ЛЕПЕЙ.
КІБА, МЯНЕ ЗАВУЦЬ ДОКТАР МАН. Я ДАПАМАГЛА ТАБЕ ВЫБРАЦЦА АДТУЛЬ. ПРЫМІ МАЕ СПАЧУВАННІ НАКОНТ...
ПРАБАЧ?
С.К.Т.С.
"СТРАТА КАМАНДЫ І ТРАНСПАРТНАГА СРОДКА".
НАСА КОЖНУЮ КАТАСТРОФУ ПЕРАКЛАДАЕ Ў ГУКАВУЮ АБРЭВІЯТУРУ.


МАЕ ЧАЛЬЦЫ ЭКІПАЖА, У ВАС АТРЫМАЛАСЯ ДАСТАЦЬ ІХ... РЭШТКІ?
ЯШЧЭ НЕ. ТЭМПЕРАТУРА ВЫБУХУ...
КАЛІ ГЭТА ЦЯБЕ КАЛІ-НЕБУДЗЬ СУПАКОІЦЬ, ЯНЫ ЗАГІНУЛІ ВОКАМГНЕННА.
БЯЗ КРЫЎД, ДОКТАР, АЛЕ НЯ ДУМАЮ, ШТО ГЭТА ФРАЗА БЫЛА ХОЦЬ РАЗ СУЦЯШЭННЕМ.
КІБА, ШТО... ШТО **ЗДАРЫЛАСЯ**?
ХІМІКАТЫ З МІНУЛЫМ ТЭРМІНАМ РАЗ'ЕЛІ ЧАСТКУ АШАЛЁЎКІ "САЮЗА". МЫ ПРАДУХІЛІЛІ ЎЦЕЧКУ ЯШЧЭ ДА ЎВАХОДА Ў АТМАСФЕРУ, АЛЕ ЎСЁ ЗЛАМАЛАСЯ ДА ЛІХАМАТАРЫ, ЯК ТОЛЬКІ МЫ ЗАПУСЦІЛІ РУХАВІКІ МЯККАЙ ПАСАДКІ.
Я РАЗУМЕЮ ГЭТА, АЛЕ...
ПРАБАЧ, КАЛІ БУДУ БЕСТАКТОЎНАЙ, АЛЕ Ў ВАС ТРАІХ БЫЛА ЎСТАЛЯВАНА РАДЫЁСУВЯЗЬ З РУСКІМІ. ВЫ ВЕДАЛІ ПРА ЧУМУ, ВЫ ВЕДАЛІ, ШТО ЎСЕ МУЖЧЫНЫ **ПАМЕРЛІ**...
...ДЫК ЧАМУ Ж ДВА КАШТОЎНЫЯ МУЖЧЫНЫ ДАЗВОЛІЛІ Ў ПЕРШУЮ ЧАРГУ ВЫРАТАВАЦЦА БЕСКАРЫСНАЙ **ЖАНЧЫНЕ**?
Я ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ.
НЕ, ПАВЕРЦЕ, Я КРЫЧАЛА ІМ ТОЕ Ж САМАЕ, АЛЕ ХЛОПЧЫКІ МЯНЕ НЯ СЛУХАЛІ.
ЯК ТОЛЬКІ МЫ ЗНЯЛІ ЎСЕ ПІРАБАЛТЫ З ЛЮКА, ДЖО І ЎЛАД ПАЧАЛІ ВЫПІХВАЦЬ МЯНЕ ВОНКІ. І ЎВЕСЬ ЧАС ПАЎТАРАЛІ АДНО І ТОЕ Ж:
"У ПЕРШУЮ ЧАРГУ ЖАНЧЫНЫ І ДЗЕЦІ".



ЯНЫ ПАДВЕРГНУЛІ НЕБЯСПЕКІ БУДУЧЫНЮ ГАЛАКТЫКІ... З-ЗА **ДАЛІКАТНАСЦІ**?
**КАНЕШНЕ НЕ.**
ГЭТЫЯ ДВА МУЖЧЫНЫ БЫЛІ САМЫМІ АДВАЖНЫМІ, САМЫМІ ВЫСАКАРОДНЫМІ...
ДОКТАР, КАЛІ ЯНЫ КАЗАЛІ "ЖАНЧЫНЫ І ДЗЕЦІ", ГЭТА БЫЛО Ў **ЛІТАРАЛЬНЫМ** СЭНСЕ.
ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ ВЫ... ВЫ **ЦЯЖАРНАЯ**?
ВЫ ПАВІННЫ ЗРАЗУМЕЦЬ. МЫ БЫЛІ ТАМ КАЛЯ **ГОДА**. НАПУЖАНЫЯ, САМОТНЫЯ І ... І НІХТО З НАС НА САМОЙ СПРАВЕ НЯ ДУМАЎ, ШТО МЫ ЗМОЖАМ ВЯРНУЦЦА ЖЫВЫМІ.
БОЖА, ХТО З ІХ **БАЦЬКА**?
Я НЯ ВЕДАЮ.
Я КАХАЛА АБОДВУХ ТАК МОЦНА.
ТАК АХУЯВАЛЬНА МОЦНА.


ДЗІЦЯ?
А ПОЛ ЯШЧЭ НЕ ВЯДОМЫ?
ЯНА ТОЛЬКІ НА ТРЭЦІМ ТЫДНІ, ЯШЧЭ РАНА ШТОСЬЦІ КАЗАЦЬ.
АЛЕ КАЛІ Ў ЯЕ ХЛОПЧЫК, ГЭТА Ж ПРОСТА ВЫДАТНА.
МЫ ДАСТАВІЛІ МАЦІ ЎНУТР У АХОЎНЫМ КАСЦЮМЕ, ТАМУ ТЭАРЭТЫЧНА ЯНЫ НЕ ПАВІННЫ БЫЦЬ СХІЛЬНЫЯ ДА МАГЧЫМЫХ РЭШТАК ЧУМЫ.
І Ў НАС БОЛЬШ ЧЫМ ДАСТАТКОВА ЗАПАСАЎ, КАБ КІБА ПРАБЫЛА ЎВЕСЬ ПЕРЫЯД ЦЯЖАРНАСЦІ Ў ЧЫСТЫМ НАВАКОЛЬНЫМ АСЯРОДДЗІ.
У ЧЫСТЫМ — МАГЧЫМА, АЛЕ НЕ Ў **БЯСПЕЧНЫМ**... КАЛІ ІЗРАІЛЬЦЯНКІ ЗМАГЛІ ЗНАЙСЦІ ГЭТА МЕСЦА, ЗНАЧЫЦЬ ЗМОГУЦЬ І ІНШЫЯ.
ТАК, АЛЕ МЫ НЯ МОЖАМ УЗЯЦЬ ЦЯЖАРНУЮ ЖАНЧЫНУ Ў СКАФАНДРЫ З САБОЙ У КАЛІФОРНІЮ, ТАК ЖА? З ГЭТАГА АТРЫМАЎСЯ Б ЦУДОЎНЫ СІТКОМ, АЛЕ Б ПАЕЗДКА БЫЛА ПАРШЫВАЯ.
ЁРЫК, МЫ НЯ МОЖАМ ПРОСТА ЎЗЯЦЬ І ПАКІНУЦЬ ГЭТЫХ ЛЮДЗЕЙ АДНЫХ, БЕЗ АБАРОНЫ.
НЕ, МОЖАЦЕ...




*ТРАДЫЦЫЯ Ў ЗША – КАЛІ НАРАДЖАЕЦЦА ДЗІЦЯ, СЯМ'Я АРГАНІЗОЎВАЕ ФУРШЭТ, І БАЦЬКА РАЗДАЕ ЦЫГАРЫ СВАІМ СЯБРАМ.



**КАЛІ** ГЭТА БУДЗЕ ХЛОПЧЫК, МЫ НЯ ЗМОЖАМ ТРЫМАЦЬ УСЕ ЯЙКІ Ў АДНЫМ КОШЫКУ... І ЎСЮ СПЕРМУ Ў АДНЫМ ХЛЕВЕ, ЯК У НАШЫМ ВЫПАДКУ.
НАМ ТРЭБА ЎВЕЗЦІ АДСЮЛЬ ЁРЫКА, ЯК МАГА ХУТЧЭЙ.
ПРАБАЧЦЕ, ДАМЫ. ЗДАЕЦЦА, ГЭТА СІГНАЛ НАШАГА АДПРАЎЛЕННЯ. НАМ ПАДАБАЕЦЦА АБРУШВАЦЦА НА ГОРАД, НАНОСІЦЬ МАКСІМАЛЬНУЮ ШКОДУ, А ПОТЫМ ЗНІКАЦЬ... БЫЦЦАМ КАНЦЭРТ "**KISS**".
ТОЛЬКІ З МЕНШАЙ КОЛЬКАСЦЮ НЕНАЎМЫСНЫХ ЦЯЖАРНАСЦЯЎ ПА ДАРОЗЕ.
ГЭЙ, А МЫ ВЫДАТНА ПРАБАВІЛІ ЧАС, ДОКТАР, ВЫ НЯДРЭННА ЎЗБАЛАМУЦІЛІ НАШЫ ШЭРЫЯ БУДНІ.
DOSVIDANYE, ZAMYATINA. ШКАДА ТОЛЬКІ, ШТО Я ТАК І НЕ ПАЧУЛА ТУЮ ГІСТОРЫЮ, ЗА ШТО ТЫ АТРЫМАЛА ЗАЛАТУЮ ЗОРКУ.
<МАГЧЫМА, ЯШЧЭ ПАЧУЕШ.>
<А ДА ТАГО ЧАСУ ХАЙ ТВОЙ ПОРАХ БУДЗЕ СУХІМ.>
БЫВАЙ, НАТАЛЛЯ. ДЗЯКУЙ ТАБЕ ЗА ТОЕ, ШТО ДАЛА НАМ НАДЗЕЮ. ХАЙ ГЭТА І ГУЧЫЦЬ ЖУДАСНА БАНАЛЬНА І ЗБІТА, АЛЕ...
ЁРЫК, ТЫ ДОБРЫ ХЛОПЧЫК.
КАЛІ ПАДРАСЦЕШ, З ЦЯБЕ АТРЫМАЕЦЦА САПРАЎДНЫ **МУЖЧЫНА**.



<Я ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ ЗА ГЭТА, АЛТЭР, АЛЕ ТАК УСІМ БУДЗЕ ЛЕПЕЙ.>
<САДЗІ, У ІЗРАІЛЕ ШМАТ ЖАНЧЫН УСЁ ЯШЧЭ ЛАЯЛЬНЫХ ДА МЯНЕ. І ЯК, ТЫ ЛІЧЫШ, ЯНЫ ПАСТАВЯЦЦА ДА ТВАЙГО НЕВЯЛІКАГА ВАЕННАГА **ПЕРАВАРОТУ**?>
<ЛІЧУ, ШТО МЫ БУДЗЕМ ВЫРАШАЦЬ ГЭТУ ПРАБЛЕМУ ПА МЕРЫ ЯЕ ЎЗНІКНЕННЯ, КАЛІ ВЕРНЕМСЯ ДАДОМУ... **ПРЫ ЎМОВЕ**, ШТО ВЕРНЕМСЯ. НАМ УСЁ ЯШЧЭ ТРЭБА ПРЫВЕСЦІ Ў ПАРАДАК ТРАНСПАРТ...>
<ПАЛКОЎНІК, ВАС ВЫКЛІКАЮЦЬ ПА БЯСПЕЧНАЙ ЧАСТАЦЕ.>
<ПРА ШТО МЫ РАЗМАЎЛЯЛІ, НАІМ? БОЛЬШ НІЯКІХ РАНГАЎ.>
<ПРАБАЧ, ЭМ... **САДЗІ**.>
<ГЭТА АМЕРЫКАНСКІ ПАЛІТЫК.>
<НЕ, ХОПІЦЬ. МЫ І ТАК ШМАТ ЧАГО НАРАБІЛІ, ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ЖАНЧЫН, ЯКІХ УЛАДА ПЕРАТВАРЫЛА Ў **ПАРАНОІКАЎ**.>
<ДЫК ШТО МНЕ РАБІЦЬ?>
<СКАЖЫ ЁЙ, ШТО МЫ МОЖАМ СКАЗАЦЬ ТОЛЬКІ АДНО...>


...ШАЛОМ?
Вашынгтон.
Зараз.
Я... Я НЕ ЗРАЗУМЕЛА ВАШАГА ЗВЯРТАННЯ. ГЭТА ПАВІННА АЗНАЧАЦЬ "ПРЫВІТАННЕ" ЦІ "ДА ПАБАЧЭННЯ"? ЦІ "**МІР**"?
КАЛІ ЛАСКА, ДЗЕ АЛТЭР? ВЫ ЗНАЙШЛІ ЁРЫКА?
Я ПРАШУ ВАС, СКАЖЫЦЕ, ШТО З МАІМ **СЫНАМ**?
ПРЫЕМНА БАЧЫЦЬ, ЯК ТЫ ХВАЛЮЕШСЯ ЗА **МЯНЕ**.

# Y, THE LAST MAN

ISSUE 16
JAN 04

BRIAN K. **VAUGHAN** PAUL **CHADWICK** JOSE **MARZAN JR.**

**SUGGESTED FOR MATURE READERS**




comicsby.by

vertigocomics.com




ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY: Сяргей Лісічонак


О, нарэшце мне адплацілася ў гэтай малой меры за шмат-разовыя акты крадзяжу і рабавання...
...у якіх, як кажа абавязак, я, ахвяра абставін, быў вінаваты!
Юны Фрэдэрык!
Хто клікаў?


Твой апошні камандзір, кароль пірацкі.
І я, твая маленькая Рут!


О, вар'яцкія ўварванцы, як адважыліся вы пайсці супраць мяне?
Ведаеце вы ці не, о найнеразважлівыя, што гэта я асудзіў вас на **знішчэнне**?
Змілуйся над намі! Пачуй, пакуль кровапраліцца не адбылося!
Не, ня быць такому!



Усё гатова, Фрэдэрык! Твая каманда чакае цябе!
Якога...
Чорт дзяры, Аманда!
Ты павінна была выйсці толькі пасля песні!
А? О, прабач, Эдзі. Гэта... гэта мой першы спектакль, памятаеш?
Гэта не ў цябе абодва бацькі былі геямі?
У цябе, відавочна, павінна быць нейкая дзёўбаная генетычная схільнасць да музычнага тэатра.
Ня смей так казаць пра маіх татачак!
Хо-хо, ты сапраўды жадаеш кінуць выклік васьмі балам па сцэнічным баі ад Стэлы Адлер?
Паспрабуй метал, маляўка!
А ну сканчвайце, дзяўчынкі!


Пакінь гэта з'едлівае лайно для Брадвея, Эдзі.
Усім астатнім паціхвілінны перапынак!
Прабач, Кейсі, але, калі мы збіраемся і далей падбіраць сіротак Эні ў кожным горадзе, дзе праязджаем, то было б нядрэнна, калі б хоць адна з іх змагла сапраўды **сыграць** Эні.
Стань больш дарослай, Кейсі.
Табе наўпрост зайздросна, што вакальныя даныя Аманды ахопліваюць больш за **адну актаву**.
Кейсі, мілка, а ты ўпэўнена наконт усяго гэтага фехтавання? Гэтага няма ў сцэнары, і мой твар лічыць, што яно даволі... **беспадстаўнае**.
І наўрад сярод нашай аўдыторыі калі-небудзь з'явіцца хоць адзін мужчына. А жанчынам больш цікавыя драма і рамантыка, чым бойкі – болькі.
Нельга рабіць такія абагульненні, Генрыета! Цяпер, калі ўсё, звязанае з мужчынамі, сышло ў нябыт, мы павінны пачаць **падрываць** усе гэтыя міфы пра розніцу палоў і...
Эм.. Прабачце?


Вы тыя самыя акцёркі, што іграюць у спектаклі?
Я... мне тут **флаер** далі.
Так, мадам. Мы сціплыя члены трупкі вандроўнага тэатра рыбы і ровара. Я наш кіраўнік і яшчэ часам па сумяшчальніцтву драматург, Кейсі Томас.
Вы, напэўна, мэр... Чорт, прабачце, дзе мы там зноў?
Норслэйк, **Небраска**. І я на самой справе не называла б сябе мэрам... хутчэй прадстаўнік **жаночага клуба**, хех.
Дык значыць вы, народ, ставіце ўсялякія шоу і таму падобнае?
Мы прыкладаем усе намаганні да гэтага. Мы прадстаўляем саюз аўтараў і выканаўцаў, аб'яднаўшыхся разам пасля таго, як грымнула чума.
З прычыны адсутнасці бесперабойнай падачы электраэнергіі па ўсёй краіне, мы разумеем, што кіно, тэлебачанне і нават радыё ў большасці сталі недаступныя, таму мы возім нізкатэхналагічныя від мастацтва з горада ў горад і...
Вы заяўкі прымаеце?



А… **што**?
Бачыце, шмат дзяўчынак і я былі фанаткамі спектакля пад назвай "Пакуль круціцца свет".
Я ведаю, гэта, магчыма, прагучыць па-дурному, але мы спадзяваліся, што вы зможаце падхапіць там, дзе некаторыя сюжэтныя лініі абарваліся і…
Гэта… сапраўды ня тое, чым мы займаемся, мадам.
Вы ўпэўнены?
Таму што я прынесла бясцэнныя выданні "Мыльная опера дайджэст" за шэсць месяцаў.
Калі б вы змаглі проста разыграць тое, што здарылася з барменам Ллойдам і той міленькай дзяўчынкай Кейт…
А вы б не жадалі чаго-небудзь больш… мастацкага?
Як наконт "Піратаў Пензанса"?
Гэта файны мюзікл ад Джылберта і Салівана, сатыра пра бестурботнага маладога чалавека, які кінуў усё і адправіўся насустрач прыгодам з…
Адзіны мюзікл, які я бачыла быў "Мулен Руж".
І ён ніколькі мяне не зацікавіў.
Ну, у нас, э, таксама ёсць філасофская, выключна жаночая пастаноўка "Гленгары Глен Рос Маміта".
Спадзяюся, там ня будзе ніякага брыдкаслоўя, так жа?


А ўвогуле, як наконт таго, каб нам з вамі пайсці і выбраць спектакль спецыяльна для вас? Абяцаю, мы знойдзем ідэальны варыянт **для вас**.
Ну, як скажаце.
А што датычыцца цаны...?
Не турбуйцеся, мы асабліва некамерцыйная арганізацыя. Усё, што мы просім, гэта які-небудзь адзін кансерваваны прадукт ад кожнага члена аўдыторыі.
І пажадана што-небудзь акрамя **каракаціц**, калі ласка.
Мы захраснулі з васьмю слоікамі гэтай брыдоты падчас нашага *"Райскага вандравання"* у Чэене.
О, гэта не павінна стаць праблемай.
Норслэйк – кансервавая сталіца Небраскі. Ежы ў нас дастаткова, да другога прышэсця хопіць.
Чаго ў нас **няма**, дык гэта забаў.
Наша бібліятэка была разрабавана, а дзяўчынкам, безумоўна, трэба трохі адцягнуцца ад усяго гэтага.
Канешне, я... разумею.
На гарадской плошчы ёсць тэатр. Ён невялікі, але нам спатрэбіцца вялікая колькасць гаручага для яго асвятлення на працягу некалькіх начэй. Што датычыцца жылля, то баюся ў нас саміх недахоп у...
Мы будзем шчаслівыя спаць пад зоркамі, мадам.
Ну а пакуль давайце дамовімся, што мы пачнем, скажам, у пятніцу ўвечары. На суботу запануем выхад на біс, ну і, мабыць, надзельны ранішні сеанс у выпадку аншлага.
Цудоўна! Беражы вас Бог, добрыя людзі за тое, што робіце такую паслугу! Заўтра раніцай у тэатры вас ужо будуць чакаць мае гарачыя хатнія піражкі!
Падрываем міфы пра розніцу полаў, а?
Ага... **бабах.**



Што, ня можаш заснуць, наш адважны лідэр?
А, Генрыета. Я проста спрабавала знайсці спосаб зрабіць нашу пастаноўку "Пензанса" больш, ну я ня ведаю... **актуальнай**.
Божа, яксьці ня вельмі падобна на тое, за што варта змагацца.
Я разважала наконт таго, каб замяніць нашых піратаў на тых дачок Амазонкі, пра якіх мы заўсёды чуем.
Ты пра тых, хто, як мяркуюць, спалілі ўсе банкі спермы?
Я ня ўпэўненая наконт станоўчай рэакцыі Донны Рыд і яе сяброўак, калі яны ўбачаць лесбійскіх ваяўніц з адной цыцкай, якія скачуць па сцэне. Ды да гэтага ж, я лічыла, што амазонкі – гэта толькі чарговая гарадская легенда.
Так... так, напэўна ты маеш рацыю.
Кейсі, ня трэба так гнуць горб дзеля гэтых жанчын. Ты ж чула гэту дамачку, ім проста трэба ненадоўга пазбавіць сябе ад **рэчаіснасці**.
Зараз **усе** толькі гэтага і жадаюць! Няўжо яны не разумеюць, што адзіны шлях **пазбавіць сябе** ад усяго гэтага сусветнага, курвіска, жудаса сітуацыі, у якім мы ўсе апынуліся, гэта **змагацца** з ім!
Нам не патрэбна мастацтва, якое супакойвае, нам патрэбна мастацтва, якое **кідае выклік** і...
ААЙ!!!!!


Гэта была...
Аманда.
Аманда!
Аманда, мілая, дзе...
Эдзі!
Што ты з ёй **зрабіла**?
Нечага **мяне** вінаваціць, гэта смаркачка нас усіх на вушы падняла! Яна проста пачала крычаць!
Я... я чула шум адтуль.
Нібы **монстр**.


О, даражэнькая, магчыма гэта была адзін з нашых **коней**.
Н-неа! Я **ведаю**, якія гукі робяць коні!
Гэта было нешта **дрэннае**. Я лічу, гэта было... тое, што забіла ўсіх хлопчыкаў.
Аманда, ня **монстр** забіў усіх мужчын.
А тады хто?
**Бог?**
А...
Мы пакуль ня **ведаем**, Аманда. Ніхто ня ведае.
Гэта... гэта загадка.
Няпраўда.
Я ведаю, што выклікала чуму.



Эдзі, зрабі ласку, **ідзі** адсюль, а?
У дзяўчынкі з-за цябе кашмары будуць.
Мы ўсе будзем спаць лепей, як толькі прымем **праўду**.
Ведаеш, хто была самай свядомай акцёркай у часы Шэкспіра?
А гэта тут, блін, якім бокам?
Гэта пытанне з каверзай. У часы Шэкспіра акцёрак **не было**.
Сапраўды. Жанчынам не дазвалялася іграць на сцэне, таму мужчыны былі вымушаны іграць **абодва** пола.
Ды няўжо, Эдзі. У нас усіх былі ўводзіны ў гісторыю драмы.
Тады ты ведаеш, што **яшчэ** здарылася ў часы Шэкспіра.
Ты ведаеш, што зачыніла ўсе тэатры і забіла там мільёны людзей?
Чорная смерць.
У яблычак. І калі чорная смерць нарэшце знікла?
У 1670-м... Адразу пасля таго, як жанчынам дазволілі іграць на сцэне.


Да чаго ты хіліш? Чорная смерць была накшталт **пакарання**... за тое, што жанчын не пускалі на **сцэну**?
А ты паразважай. Шмат антраполагаў, ці як іх там, лічаць, што першымі акцёркамі былі жанчыны, так? Драма ў нас у **крыві**.
Значыць, забараняць нам гуляць на сцэне - гэта ненармальна. А калі знішчаеш парадак рэчаў, здараецца ўсялякае лайно.
Ну а што наконт **нашай** чумы? Калі ўсё гэта здарылася, не было нічога такога, каб перашкодзіць **нам** гуляць.
**Лухта** сабачая! Колькі там было добрых роляў для жанчын нашага ўзросту, пакуль усе мужчыны ня **змерлі**, Генрыета?
Ну...
Колькі там было добрых роляў для **каго-небудзь** з нас? Калі толькі ты не дзевятнаццацігадовая старлетка, гатовая паказваць цыцкі, ці Джулія Робертс. Што ў нас было?
Я не кажу, што я шчаслівая, таму што хтосьці памёр, але, калі жадаеце пачуць маю думку, усёй гэтай катастрофай маці-прырода проста вырашыла паквітацца.
Гэта была самая абуральная, эгацэнтрычная і **дурная** прамова, якую я калі-небудзь...
ХРРРРЫЫЫ
З-з... здаецца, яно вярнулася.


Генрыета, адзвядзі Аманду назад у палатку. Эдзі, ты са мной.
Ура мне.
Усе астатнія, захоўвайце свае пазіцыі.
Як лічыш, з чым мы маем справу, бос?
Ды хто б ведаў... У іх у Небраске ёсць **баншы**?
Гэй, а хіба гэта не **бутафорскі** пісталет?
Чорт, Эдзі, а яшчэ грамчэй пра гэта можаш сказаць? Ня ўсе пачулі.
РЫ Ы Ы Ы Ы
Там!
Дзе?


Там!
Што гэта, курвіска, за... **курвіска**?
Маркую, гэта **малпа**.
РЫЫЫ РЫЫЫЫ
Дзякуй, кэп. Што яна **тут** робіць?



Мабыць з заапарка ўцякла.
Не, у заапарках малпы **памперсы** ня носяць.
Гэта, напэўна, адна з малп-дапаможцаў. Ну з тых, хто часам бывае ў інвалідаў. Магчыма, яе гаспадар памёр ад чумы.
ІРЫЫ
О божа, у яе **кроў** ідзе.
Не турбуйся, маленькая.
Мы з Кейсі тваe сябры. Мы пра цябе паклапацімся.
**Паклапацімся?**
Эдзі, а што, калі ў яе шаленства ці...
Ну, ну, супакойся, мілка.
Матулечка **нікому** ня дасць цябе пакрыўдзіць.
Вось лайно.
Дзёўбаны біялагічны гадзіннік...


Так, дамы, у вас усіх была магчымасць павылупляцца на наш новы талісман. Заўтра пад'ём у восем, таму давайце ўсе на бакавую.
І больш ніякіх дрэнных думак сёння, добра, маленькая?
Добра...
Якія прагнозы, доктар Дулітл?
Цяпер значна лепей, калі мы з малпачкай абедзве дапаліся на **мокрых** портак.
Калі сур'ёзна, зашываць раны на малпе - гэта шпацыр па парку ў параўнанні са швівам дзевятнаццаці дзёўбаных **пірацкіх касцюмаў** з нічога.
Як ты лічыш, што з ёй здарылася? На яе напала сабака ці яшчэ што?
Праўду кажучы, сумняваюся. Парэз быў чысты, але глыбокі... Як быццам хтосьці стукнуў яе **мясніцкім нажом**, ці штосьці накшталт гэтага.
Цудоўна. Зашмат штосьці для "больш ніякіх дрэнных думак".


Адзіны наш клопат зараз – гэта **смурод** ад гэтай жывёліны. У нас жа няма ніякіх **малпіных падгузнікаў** у шафе, так жа?
Пачакайце, гэта не сапраўдны памперс. Гэта проста старая **швейная хустка**.
Калі там ёсць манаграма, мы зможам высвятліць, каму яна прыналежыла...
Фуу.
Калі толькі ўладаром ня быў містэр **Карычневы**. Ня думаю, што тут мы знойдзем нейкія зачэпкі. Няшчаснай дзяўчынке ўжо некалькі дзён пялюшкі не змянялі.
На самой справе, я ня так ужо упэўнена, што гэтая няшчасная дзяўчынка... **увогуле** дзяўчынка.
Што, чорт дзяры, гэта **значыць**?
Сама пабач.
Я ў гэтым не эксперт, але больш чым упэўнена, што ў гэтай істоты **мужчынскі** палавы орган.
Вось лайно, ды яна **мае рацыю**!
Гэта **немагчыма**. У малпачкі, магчыма, проста дзіўная анатомія. Мабыць гэта проста павялічаны клітар ці...
ІІ ІІІ
Вох.
Так, ніколі раней ня бачыла, каб клітар рабіў вось **так**.


Але я лічыла, што чума забіла **ўсіх** млекакормячых з У-храмасомай. Ну, я маю на ўвазе, я страціла абодвух катоў. І **жарабцы** майго хлопца ўсе памерлі.
Палова мышэй у маёй кватэры нарэшце здохлі. А я шмат **гадоў** спрабавала іх забіць.
Атрымліваецца, што чума зрабіла ўплыў на ўсіх, акрамя **малп**? Ды які, курвіска, у гэтым сэнс? Іх жа **ДНК** амаль ідэнтычна нашай, хіба не?
Божа, а што, калі ўсё ж такі яна **зрабіла ўплыў** на ўсіх малп... але толькі не на **гэтую**?
Што, калі гэта **апошні самец на Зямлі**?
Ты пачынаеш казаць як **Эдзі**, Генрыета.
Гэтыя шарыкі тут, магчыма, проста від мудрагелістай анамаліі... Як у жменькі людзей, у якіх нібы, ну ведаеш, ёсць імунітэт да **ВІЧ**-інфекцыі.
І ўсё ж гэта **грандыёзнае** адкрыццё. Мы павінны паведаміць...
Не! Гэта застанецца паміж намі трыма.
Калі чуткі распаўсюдзяцца, у жанчын можа зарадзіцца надзея, што дзесьці таксама ёсць і **чалавечы** самец.
А што дрэннага ў тым, што мы дадзім людзям невялікую надзею?
Гэта безадказна! Абяццані нейкага міфічнага апошняга мужчыны, які прыдзе сюды... і **выратуе нас**, проста дасць жанчынам яшчэ адно апраўданне для **самазаспакаення**.
Мы **знікнем** як від, калі не падымем дупы і ня знойдзем спосаб выратаваць **сябе**! Вось **такі** пасыл наша трупа, відавочна, павінна данесці да ўсіх.
Якім чынам? Пастаноўкамі **пірацкіх мюзіклаў**?
Прабач, Кейсі, але...
Не.
Ты... ты безумоўна маеш рацыю.


Ну дык і што... Скажам усім пра гэта?
Не. Мы зробім спектакль пра гэта.
Спектакль пра малпу?
Спектакль пра апошняга мужчыну на Зямлі.
Аўтарская праца?
А чаму б і не? Я зараз жа сяду і напішу штосьці пра гэта... Гісторыю пра тое, як жанчыны знайшлі апошняга жывога мужчыну.
А на самой справе, хіба гэта такая добрая ідэя? Ці ня здасца, што мы выкарыстоўваем трагедыю... дзеля пацехі?
Але гэта будзе больш, чым пацеха! Гэта будзе мастацтва! Мы скарыстуем мастацкую выдумку, каб... каб дапамагчы ўсім нам прыняць праўду!
Гэта ідэальная гісторыя для таго, каб выказаць усе тыя ідэі, што я ўвесь гэты час спрабавала данесці, пра жыццё ў свеце пасля чумы!
Быццам бы богі паслалі нам уласную маленькую смярдзючую музу.
І гэта мяне ты лічыш эгацэнтрычнай...


Павер мне, Эдзі, гэты спектакль будзе маркітаванай **сенсацыяй**!
Людзі будуць прыходзіць **адусюль**, каб убачыць яе!
Працяг будзе...


Поўдзень.
Кухня: стол, стул, слоік марынаваных артышокаў.
ARTICHOKE HEARTS
З'яўляецца самотная асоба.
Гэта **Тэрэза**, адна з мільярдаў жанчын, якіх чума зрабіла ўдовамі.
Але ў адрозненне ад сваіх сябровак Тэрэза ня кінулася ў алкаголь і наркотыкі, яна не меркавала пра самазабойства. Яна тая, на каго трэба параноўвацца. Яна моцная, незалежная жанчына.
Дзякуючы таму, што Тэрэза са сваім мужам пабудавалі пасля 11 верасня бомбасховішча ў сутарэнні, у яе дастаткова ежы, каб пражыць яшчэ не адзін год.
Тэрэза не памрэ, яна з тых, хто **выжывае**.
Але як толькі яна сядае, каб паспрабаваць ланч, яна сутыкаецца з праблемай...


Яна ня можа адкрыць слоік.
Яна спрабуе на ўсе жылы, але бяз ладу.
Гэта і прабіла яе броню... Адкрываць слоікі была адна з тых рэчаў, якую яна заўсёды прасіла зрабіць менавіта свайго **мужа**.
Раней яна з сяброўкамі часта жартавала, што гэта **адзінае**, для чаго патрэбны мужчыны.
І потым увесь жудас сітуацыі ўстае перад вачамі.
Тэрэза раптам разумее, што яе муж ніколі ня вернецца.
**Ніводны** мужчына ня вернецца.
Яе рэакцыя абсалютна такая ж, якая была ў кожнай з нас, калі **мы** нарэшце дазволілі сабе такі міг.
ААААААААААА!
KERAAASH
І ў гэты самы момант раздаецца голас, які напявае:
Так добра, калі мужчына ў хаце...




# **Камедыя і трагедыя** Акт другі з двух: "**&**"

| *writer* | *penciller* | *inker* | *letterer* | *colorist* | *separator* | *cover artist* | *ass't ed* | *editor* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Brian K. VAUGHAN | Paul CHADWICK | Jose MARZAN Jr. | Clem ROBINS | Pamela RAMBO | ZYLONOL | J.G. JONES | Zachary RAU | Will DENNIS |

*Y: The Last Man created by Brian K. Vaughan & Pia Guerra*


**Чорт**, Эдзі! Ня псуй вобраз. Мы ўжо і так выдаткавалі сапраўдны слоік з ежай на гэту рэпетыцыю.
І дзе апошні твой касцюм? Ты выглядаеш як хадзячая рэклама для якіх-небудзь чэлесадзевак!
Рр рyy рyy
Прабач, Кейсі, але тут спякота ў мільён маркітаваных градусаў.
І сапраўды, хіба нельга зрабіць імя майго персанажа больш... драматычным? Што наконт чаго-небудзь з Шэкспіра? Накшталт Гамлета ці... ці **Рамэа**!
Калі і існуе штосьці, што я ненавіджу, дык гэта калі лайновыя пісакі спрабуюць здавацца вартымі, крадучы імёны ў **класікаў**.
Увогуле Лаёнэл - гэта маё прысвячэнне маці-заснавальніцы навуковай фантастыкі... невялікая адсылка да **Мэры Шэлі**.


Гэта тая, што пра Франкенштэйна напісала?
Тады, у 1800-х яна напісала кнігу пад назвай "**Апошні Мужчына**" пра чуму дваццаць першага стагоддзя, якая забіла ўсіх, акрамя хлопца па імі Лаёнэл.
**Вох, лайно...** А што яе выклікала?
Чуму? На самой справе яна ніколі не тлумачыла такія рэчы. Але ня ў гэтым сэнс яе апавядання.
Гэта ганьбаванне некантралюемай праявы... **мужчынскага дамінавання**, з-за якога свет заўсёды быў пад пагрозай знішчэння.
Яно пра тое, як мастацтва і фантазія не змаглі выратаваць свет.
Ну, гэта ўсё, безумоўна, цудоўна, але я ўсё яшчэ не разумею матывацыю **свайго** персанажа
У сэнсе, калі Тэрэза ня можа адкрыць слоік, чаму б ёй проста не скарыстаць латэксныя пальчаткі для мыцця посуду? З іх дапамогай атрымліваецца выдатны захоп, і адкрыць працей простага...
Гэта ня жарты! Гэта вам не якое-небудзь лайновае шоу Марты Сцюарт! Мы не даем карысныя парады хатнім гаспадыням! Гэта **драма**! Дылема Тэрэзы - гэта **алегорыя**!
Божа ж ты мой, чаму ўсе паводзяць сябе так, быццам, курвіска, **першы** раз у спектаклі іграюць?
Кейсі, мілка, магчыма самы час для маленькага перапынку? Мабыць, падыхаеш крыху свежым паветрам.
...Добра.
Але хай хто-небудзь убярэ гэтыя артышокі. Мабыць, **цікаўная Джарджэта** з'есць іх на ланч.
Мм мнн


Кейсі, будзь мякчэй з дзяўчынкамі. Яны ўсю раніцу спрабуюць разабрацца са сцэнарам.
Божа, ты напісала яго менш чым за **ноч**.
Я яго не пісала, Генрыета. Ён сам сябе напісаў.
Менавіта так. Ты паводзіш сябе як апантаная з таго часу, як мы знайшлі гэту жывёліну. Яна ператварыла цябе...
Тсссс!
Зараз, ты, я і Эдзі – тры адзіныя жывыя чалавекі, якія ведаюць, што наша малпачка на самой справе **ён**.
Калі яшчэ хто-небудзь даведаецца, што мы натыкнуліся на апошняга жывога **самца**, масавая істэрыя захлісне Небраску, як маркітаваная...
Што тут **адбываецца**?


Вы робіце пастаноўку пра **мужчыну**, які перажыў чуму?
Так, мадам. Мы...
Калі я згадзілася дазволіць вам карыстацца нашым тэатрам, вы сказалі мне, што знойдзеце штонебудзь **дарэчнае** для прадстаўлення.
I што, напраміласці Божа, дарэчнага ў **вашай** ідэі? Нашы **пакуты** не павінны станавіцца тэмай для... для вашага **лёту фантазій**.
Магчыма вам трэба пачакаць і **паглядзець** шоу, перш чым выносіць прыгавор?
Мне гэта не патрэбна! Жанчыны Норслэйка жадаюць старамодных забаўкаў, а ня гэту недапушчальную эксплуатацыю!
Сапраўды? А то запрашэнні на першыя два вечары гэтай "недапушчальнай эксплуатацыі" ужо цалкам разышліся.
Я ўпэўніваю вас, мы ня мелі ніякага намеру выяўляць непавагу да бацькоў, мужчын, сыноў і братоў, якіх вы... якіх **мы**... страцілі.
Гэта правакацыйная пастаноўка, але яна зроблена з вельмі добрым густам.
I ў якім жа свеце вось **гэта** мае густ?
Трупа Вандроўнага Тэатра Рыбы і Ровара з гонарам прадстаўляе
АПОШНІ МУЖЧЫНА
пастаноўка Кейсі Томас
A Play By Cayce Thomas


Якога г...
Эм, гэта праца Эдзі, Кейсі. Яна палічыла, што малюнак з тваім новым гадаванцам зробіць рэкламны плакат **больш інтрыгоўным**.
Іх паразвешвалі па ўсім горадзе.
Гэта **так** вы паважаеце нашых памерлых... параўноўваючы мужчын з усмешлівай **макакай**?
Канешне ж не. Бачыце, гэта малпа штосьці накшталт... **сімвала** нашай тэатральнай трупы. У Кітаі яны ўвасабляюць эм... творчасць і...
Нас не цікавіць ваша прэтэнцыёзнае смецце.
Чаму б вам не гандляваць сваёй **брыдотай** дзе-небудзь у іншым месцы?
Таму што ў нас ёсць **права** на самавыяўленне.
У мяне таксама.
І менавіта гэта я і маю намер зрабіць.
І што ж **гэта** значыць?
Не звяртай на яе ўвагу, Кейсі.
Калі я рабіла тую пастаноўку пра гея Ісуса, кожная дзёўбаная матухна з плакатам у руках выйшла...
Арк арк арк


Ды што там з ім?
Ня ведаю. Мінулай ноччу ён тры разы будзіў мяне, вось так гаўкаючы.
Напэўна, пачуў усе гэтыя **дрэнныя водгукі**, што зваліліся на нашы галовы...


Вечар прэм’еры
Праз адзіннаццаць гадзін
Лаёнэл?
Прывітанне, Тэрэза.
Печаны ты гад!
SLAP



**Два месяцы** прайшло. Я ўжо была ўпэўненая...
Ты павінна мне паверыць, я быў у **ліфце**, калі выбухнула чума і... і электрычнасць адключылі.
І я ўсё яшчэ не разумею, як выжыў... Два іншыя мужчыны, што былі побач са мной, яны... яны нібы проста **разарваліся**.
Я быў **замураваны** ў гэтай чорнай бляшанке з іх гнілымі трупамі. І, хай мяне прабачыць Божа, я... я быў вымушаны харчавацца іх **плоццю**, каб выжыць.
Я быў блізкі да таго, каб проста здацца... Але памяць аб тваім твары прымушала мяне трымацца. І нарэшце, мінулай ноччу, хтосьці пачуў мае крыкі і...
Гэта ўсё па-сапраўднаму? Гэта... сапраўды **адбываецца**?
CLAP
CLAP
CLAP
CLAP
CLAP
CLAP


Што ж, усё ідзе лепей, чым я чакала.
І знадворку ніхто з плакатамі не пратэстуе.
Ня цешся дачасна. Я пра тое, што мы ўсё яшчэ даем аўдыторыі тое, што яна жадае. Вось пачакай, калі мы пачнем **разбураць** іх ілюзіі пасля перапынку...
Выдатнае шоу, Эдзі. З цябе такі мужчына атрымаўся, Леа Дзі Капрыа курыць убаку.
**Да дупы**, з мяне хопіць ужо гэтых тэатральных пацалункаў з дзеўкамі, у гэтым будзьце ўпэўненыя. Мае партнёры працягваюць "выпадкова" засоўваць язык мне ў рот.
І ты можаш іх у гэтым вінаваціць? Ты была настолькі пераканаўчай, што я сама ледзь стрымалася... і гэта пры тым, што менавіта **я** прылепляла гэту штуку табе на твар.
Ннн
А калі сур'ёзна, на самой справе ні ў воднай з роляў, якія я іграла на працягу жыцця, я не адчувала сябе лепей, чым у гэтай. Нам варта паразважаць над тым, каб узяць яе ў наш дарожны рэпертуар.
Ну дык давай там яшчэ нагу паламай, сястрычка.
Давай спачатку пабачым, ці зможам мы перажыць другі акт, добра?
shift coordinates -.0358a 3.7831b
vector coordinates 22.835s -3.4855d
Калі яшчэ хоць раз хто-небудзь паспрабуе пацалаваць мяне па-французску, я яшчэ **шмат чаго** зламаю!
scalar sequencing - DISABLED
target identity - CONFIRMED


‹Доктар Эм, гэта Таёта.›
‹Баюся, у нас праблема.›
‹Ты зноў згубіла жывёлу?›
‹Не. Я, каб яго, прама над ім. Шмат грамадзянскіх, на жаль, так-сама... Прытым амаль заўсёды.›
‹Я магу адабраць пасылку, але не магу гарантаваць, што ў працэсе не заб'ю пару мясцовых.›
‹**Чорт дзяры**, толькі яшчэ больш крыві на маіх **руках** мне не хапала...›
‹Але няма ніякіх гарантый, што таго генетычнага матэрыялу, што ты ўжо змагла са-браць, чым бы ён там ні быў, будзе дастаткова.›
‹Заставайся на пазіцыі яшчэ гадзіну, Таёта. Але дзейнічай, калі змо-жаш звесці колькасць выпадковасцяў ня больш чым да **аднаго**. Я не магу дазволіць сабе, каб зноў гінулі людзі.›
Хай, домо арыгато...
‹...курвіска ты няўпэўненая.›
‹Дзе я і ненавіджу сядзець у засадзе, дык гэта ў маркітаваным **тэатры**...›


Адыдзіце ад мяне!
Калі ласка!
Я проста спрабую трапіць да сваёй жонкі!
Забудзься яе, вазьмі **мяне**! Можаш адпярдоліць мае цыцкі!
Не, вазьмі мяне! Можаш адпярдоліць мяне ў **рот**!
Не, мяне! Можаш адпярдоліць мяне ў...
БУУУУУ!
А, лайно.
А зараз **што**...?


З мяне **хопіць**!
Гэта пастаноўка – **пародыя**!
Сядзь.
Не, яна мае рацыю!
Гэта **брыдота**!
Ды цішэй вы!
Мы што, сапраўды дазволім гэтым людзям паказваць жанчын, як нікчэмных брудных **самадаек**?
Ты перапыніла маю баявую сцэну...
...ты, **курвіска** самадаечная!


Унх!
Эдзі, спыніся!
Адчапіся ад мяне, фанабэрыстая...
BLAM


А ну, курвіска, спыніліся ўсе!
Зараз жа!
Гэта яшчэ што за чорт?
Бог з машыны?
<А, да ліхаматары гэту нізкааплатную бяссэнсіцу.>
<Я сыходжу...>


Слухай-це!
Мы шукаем вось гэту малпу-капуцына, якая намалявана тут!
The Fish & Bicycle Traveling Theater Troupe proudly presents
THE LAST MAN
A Play By Cayce Thomas
Навошта?
Ды хто вы ўвогуле такія?
Мы з СААЗ.
Так, сусветная арганізацыя аховы здароўя.
З СААЗ?
Эх, паспяшалася ты, 355. Яшчэ б пара-тройка такіх рэплік, і атрымаўся б выдатны скетч у стылі Эбата і Кастэла.
Гэта жывёла – рызыка для здароўя людзей.
Я буду вымушана папрасіць вас аддаць яе.
Катэгарычна не!
Мы яе залаталі, што б вы там з ёй ні зрабілі. Цяпер ён прыналежыць нам.
Ён?


О. Гэта ня хлопчык, на самой справе.
Гэта самка з э… мужчынскімі геніталіямі… Як тая акцёрка **як-там-яе-імя**.
Прабачце!
І **якую ж** акцёрку вы мелі на ўвазе?
О, нікога з **вас**, канешне ж. Тая ва ўсялякіх жудзіках здымалася…
Мая калега **жадала сказаць**, што мы ў лабараторыях геннай інжынерыі працавалі над вывядзеннем новай пароды, э… устойлівых да чумы **гермафрадытаў**.
На жаль, тыя асобіны, якія ў нас атрымалася стварыць… як, напрыклад, малпа, якая ўцякла з лабараторыі,… могуць быць носьбітамі эм… вельмі заразнага **азіяцкага грыпу**.
О.
У такім выпадку…


З вартаннем, лайнакідальнік ты мой.
Гэты быў апошні раз, калі мы даручылі Ёрыку наглядаць за табой.
Гэй, доктар Ман. Я ж ужо казаў вам, што калі я прачнуўся, клетка Амперсэнда была пустая, а нейкая **дзяўчынка-ніндзя** саскоквала з нашага вагона.
Дзяўчынка-ніндзя. Ну канешне ж.
Дзякуй за супрацоўніцтва.
Прабачце, што перапынілі вашу... пастаноўку.
Гэй, а гэта пастаноўка сапраўды пра апошняга мужчыну на Зямлі?
Не турбуйцеся, мадам, мы яе ўжо скасавалі.
Слухай ты, дзівачыла на літару "м", мабыць ужо заб'еш сваю тлустую **зяпу**?
Так, гэта пастаноўка сапраўды пра джэнтльмэна, які змог выжыць. І ячакае доўгі і паспяховы тур па кожным горадзе нашай краіны **з шырокімі поглядамі**.
А гэта Кейсі, аўтар пастаноўкі.
Мне проста цікава... а чым усё скончылася?


Ну хопіць. У нас няма часу на...
Пачакай, мне трэба даведацца, быў там **шчаслівы** канец ці не.
Безумоўна. Апошні мужчына выратаваў свет.
Праўда?
Якім чынам?
Ён здзейсніў самазабойства і даў жанчынам выратаваць саміх сябе.
Бяз крыўды...
...але, здаецца, што ваша пастаноўка - звычайны кавалак **лайна**.

